

"Каб усе былі адно" (Ян 17, 21)

# Царква

№ 4 (43), 2004 КАЛЯДЫ

*Вэсяліцеся праведныя,
радуйцеся нябёсы, трымціце горы,
БО ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ.
Дзева, быццам пасад хэрувімскі,
трымае ў абдымках Бога-Слова, што прыняў цела.*
*Ютрань Нараджэньня Гасподняга.*



**Шчыра віншуем са сьвятамі Нараджэньня Хрыстова і Новым 2005 годам усіх чытачоў «Царквы», нашых аўтараў, сяброў і дабрадзеяў!**



## Біскупская кансэкрацыя новапрызначанага Апостальскага нунцыя ў Беларусі

21 лістапада ў Спліце (Харватыя) адбылася біскупская кансэкрацыя Марціна Відавіча, новапрызначанага Апостальскага нунцыя (дыпламатычнага прадстаўніка Ватыкану) у Беларусі. Мансіньёр Марцін Відавіч, узьведзены ў сан архібіскупа, атрымаў пасьвячэньне падчас Сьвятой Імшы ў катэдры сьвятога Пятра з рук кардынала Анджэла Садана, Дзяржаўнага сакратара, пры саўдзеле кардынала Вінка Пульжыча і архібіскупа Марына Барышыча.

Зьвяртаючыся да новага нунцыя, кардынал Садана так прадставіў краіну яго будучай місіі: "Знойдзеш там Царкву, якая шмат выцярпела за часы камуністычнага перасьледу, але цяпер, дзякуй Богу, адраджаецца да новага жыцьця пад кіраўніцтвам шаноўнага кардынала Казіміра Сьвёнтка, архібіскупа Менска-Магілёўскага ды іншых годных пахвалы пастыраў (...). На гэтай зямлі на дзесяць мільёнаў жыхароў прыходзіцца звыш мільёна католікаў, якія ўтвараюць маладую і шчырую Царкву, адкрытую ў бок праваслаўных братоў і ўсіх людзей добрай волі".

Ад імя беларускіх католікаў архібіскупа прывітаў Яго Эксцэленцыя біскуп Антоні Дзямянка. "Спадар нунцый,— сказаў ён,— чакаем Вас як прадстаўніка Сьвятога Айца, які ніколі нас не пакідаў і які ёсьць нашай скалой, нашым сьвятлом. Мы былі і заўжды будзем з Пятром!"

*Catholic.By*




# Пастырскае слова Апостальскага Візітатара «ad nutum Sanctae Sedis» для грэка-католікаў Беларусі

## *на сьвята Раства Хрыстовага 2004 году*

*Вялебныя Айцы,*
*Дарагія Манахі, Манахіні і Браты Семінарысты,*
*Любыя ў Госпадзе Браты і Сёстры,*
*Шаноўныя Сябры!*

*Весяліцеся праведныя,*
*радуйцеся нябёсы, трымціце горы,*
*бо Хрыстос нарадзіўся.*
*Дзева, быццам пасад хэрувімскі,*
*трымае ў абдымках Бога-Слова,*
*што прыняў цела.*

*Ютрань Нараджэньня Гасподняга.*

**1** *Словы гэтай старажытнай песьні ставяць усіх нас перад парадоксам Нараджэньня Госпада, Бога і Збаўцы нашага Ісуса Хрыста. Ён — Спрадвечны Сын Божы* "дзеля нас людзей і дзеля нашага збаўленьня зышоў з неба, прыняў цела ад Духа Сьвятога і Марыі Дзевы і стаўся чалавекам". *Гэтая парадаксальная Таямніца ўжо больш за дзьве тысячы гадоў нясе радасьць і надзею ўсім людзям добрай волі.*

Ісус Хрыстос увайшоў у гісторыю чалавецтва, у гісторыю людзей і народаў, якая такім чынам сталася гісторыяй збаўленьня. Радасная Зьвестка пра нараджэньне ў целе Ісуса Хрыста — Збаўцы сьвету зазьзяла нашым продкам больш за тысячу гадоў таму і з таго часу гісторыя беларускага народу стала гісторыяй збаўленьня. Божая Праўда Евангельля прасьвятляла радасныя й сумныя часы жыцьця нашага народу. Тое ж сьвятое Евангельле Ісуса Хрыста таксама й сёньня зьяўляецца крыніцай сьвятла і духовай моцы для ўсіх людзей добрай волі, якія шчыра й сур'ёзна клапоцяцца пра дабро нашай Бацькаўшчыны.

Пакаленьні, што былі перад намі, захопленыя Таямніцай Нараджэньня Хрыстовага, сьпявалі на роднай мове калядкі, чым выяўлялі радасьць з прыходу Збавіцеля. Вельмі патрэбна, каб і сёньня мы нанова адкрылі духоўную каштоўнасьць калядак ды іншых хрысьціянскіх калядных традыцыяў, знайшлі ў іх натхненьне разьвіваць і пашыраць беларускую мову ды хрысьціянскую беларускую культуру.

**2** У сьвяточны час Раства Хрыстовага, у сьвятле Таямніцы Ўцелаўленьня Сына Божага, зьвяртаем нашыя думкі да некаторых важных падзеяў у жыцьці нашае Царквы ў 2004 годзе.

На першым плане сярод падзеяў мінулага году зьяўляецца працэс дзяржаўнай перарэгістрацыі парафіяў Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы. Працэс гэты патрабаваў значных юрыдычных ды арганізацыйных намаганьняў. З Божай дапамогай усе нашыя парафіі ў Беларусі прайшлі перарэгістрацыю на базе новага, грамадзянскага статуту.

Госпаду Ісусу Хрысту горача дзякуем за асаблівую апеку над нашымі парафіямі ў час перарэгістрацыі.

Сьвятарам і сябрам парафіяльных радаў нашае Царквы дзякуем за дзейсны саўдзел у гэтым працэсе, усім вернікам і нашым сябрам выказваем удзячнасьць за іхнія шчырыя малітвы і за арганізацыйную дапамогу.

Словы падзякі накіроўваем да кіраўніцтва Камітэту па справах рэлігій і нацыянальнасьцяў пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь і да кіраўніцтва мясцовых, раённых і абласных органаў улады за разуменьне арганізацыйных патрэбаў нашае Царквы. Такім чынам, парафіі Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы, традыцыйна прысутнай у гісторыі Беларусі, могуць цяпер больш стабільна несьці духоўнае служэньне дзеля агульнага дабра грамадства нашае Бацькаўшчыны.

Асаблівым выразам падзякі Госпаду Ісусу Хрысту за новы юрыдычны статус нашых парафіяў была агульнацаркоўная "Сынакса" — пілігрымка і духоўная канферэнцыя з удзелам сьвятароў і сябраў радаў усіх парафіяў, якая прайшла ў Целяханах, Бабровічах ды Івацэвічах 6 лістапада гэтага году. Пілігрымка да месцаў, зьвязаных з душпастырскім служэньнем айца Баляслава Пачопкі — руплівага грэка-каталіцкага сьвятара і выдатнага культурнага ды грамадзкага дзеяча міжваеннага перыяду — была каштоўнай нагодай сумесна асэнсаваць душпастырскія заданьні й выклікі, якія сёньня стаяць перад нашымі парафіямі. Добрым указальнікам на шляху душпастырскай дзейнасьці нашых парафіяў зьяўляецца надпіс на помніку, што быў асьвячаны на магіле айца Баляслава ў Целяханах: "Ісус сказаў: *Я — Дарога, і Праўда, і Жыцьцё*" (Ян 14, 6).

**3** Мінулы год прынёс нашай Царкве тры асаблівыя юбілеі.

Першы — гэта Юбілей 50-годдзя сьвятарства Кардынала Прэфекта Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў Яго Блаславенства Патрыярха Ігната Майсея Дауда, які сьвяткаваўся ў кастрычніку ў Шарфэт у Ліване і ў Рыме. З гэтай нагоды дзякуем Госпаду за архіпастырскае служэньне Кардынала Прэфекта Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў, якой падпарадкаваная нашая Царква.

Нашай асаблівай радасьцю ў 2004 годзе былі 90-ыя ўгодкі з дня нараджэньня Ўладыкі Часлава Сіповіча — тэолага, гісторыка, выдатнага беларускага культурнага і грамадзкага дзеяча. Айцец Часлаў Сіповіч — выхаванец Друйскай гімназіі Айцоў Марыянаў, руплівы сьвятар-манах і вялікі патрыёт — пасьля рукапалажэньня ў Рыме ў 1940 годзе ня мог вярнуцца ў Беларусь і быў вымушаны жыць на эміграцыі ў Заходняй Еўропе. Але ўсё сваё жыцьцё ахвярна служыў ён Царкве і Бацькаўшчыне.

Сярод шматлікіх формаў дзейнасьці а. Часлава Сіповіча было стварэньне разам з беларускімі сьвятарамі Пятром Татарыновічам і Львом Гарошкам Беларускай Праграмы Радыё Ватыкан. З 1947 году а. Часлаў быў рэктарам Беларускай Каталіцкай Місіі ў Лондане, а з 1960 году — як першы ад 1839 году беларускі грэка-каталіцкі біскуп — служыў сярод беларусаў замежжа як Апостальскі Візітатар.

Уладыка Часлаў быў адзіным беларускім удзельнікам II Ватыканскага Сабору і актыўна ўдзельнічаў у падрыхтоўцы Дэкрэту аб Усходніх Каталіцкіх Цэрквах *"Orientalium Ecclesiarum"*. Добрай дапамогай для пазнаньня і асэнсаваньня шырокага й шматбаковага служэньня Біскупа Часлава зьяўляецца нававыдадзеная ў Менску кніга Апостальскага Візітатара для беларусаў замежжа айца мітрата Аляксандра Надсана.

Урачыстую падзячную Літургію за жыцьцё і служэньне вялікага сьведкі веры Ўладыкі Часлава Сіповіча адслужым у Менску ў парафіі Праведнага Язэпа ў нядзелю 26 сьнежня — у сьвята Найсьвятой Багародзіцы. На той жа Боскай Літургіі будзем асабліва маліцца за Беларускую Каталіцкую Місію ў Лондане і за ўсіх беларусаў замежжа.

Каталіцкая Царква ў Беларусі адзначала ў мінулым годзе трайны Юбілей Старшыні Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Беларусі, Архібіскупа-Мітрапаліта Менска-Магілёўскага Яго Эмінэнцыі Кардынала Казіміра Сьвёнтака: 90 гадоў жыцьця, 65 гадоў сьвятарства ды 10 гадоў узвышэньня да кардынальскай годнасьці. Радасьць гэтага Юбілею разьдзялілі з рыма-католікамі таксама й беларускія грэка-католікі. Сьвяткаваньне ў Рыме, у нядзелю, 28 лістапада, 10-годдзя наданьня кардынальскай годнасьці было асабліва добрай нагодай выказаць Айцу Кардыналу глыбокую ўдзячнасьць беларускіх грэка-католікаў за ўсю дапамогу і падтрымку, якую нашая Царква атрымлівае з яго боку.

Напрыканцы старога году, у гэты сьвяточны час Раства Хрыстовага, шчырую падзяку накіроўваем да ўсіх Прыяцеляў і Дабрадзеяў, якія ў

розны спосаб дапамагаюць нашай Царкве несьці евангелізацыйнае і дабрачыннае служэньне грамадзтву Беларусі.

За духовую і матэрыяльную салідарнасьць дзякуем асабліва італійскім каталіцкім сем'ям, якія ўжо шмат гадоў кожнае лета прымаюць тысячы беларускіх дзяцей на аздараўленьне. Нашую ўдзячнасьць хочам выразіць ім у нашых парафіях у сьвяточнай Літургіі ў Дзень Раства Хрыстовага — 25 сьнежня 2004 году.

4 Любыя ў Госпадзе Браты і Сёстры!

Як вам ужо вядома, з блаславеньня Сьвятога Айца Яна Паўла II час ад кастрычніка 2004 году да кастрычніка 2005 году абвешчаны ў Каталіцкай Царкве як Год Еўхарыстыі, у якім кожная парафія і кожная супольнасьць вернікаў мусіць асэнсаваць веліч, каштоўнасьць ды значэньне Таямніцы Еўхарыстыі ў жыцьці і душпастырскай дзейнасьці.

Удзел у нядзельнай Боскай Літургіі ў асаблівы спосаб узмацняе парафіяльную супольнасьць, і таму ён павінен быць сапраўдным душпастырскім прыярытэтам у нашых парафіях. Да сэрцаў моладзі нашае Царквы хачу данесьці словы Сьвятога Айца Яна Паўла II, які ў Апостальскім лісьце *"Mane nobiscum Domine" ("Застанься з намі, Госпадзе")* напісаў: *"Еўхарыстыя — цэнтр жыцьця, таму жадаю, каб моладзь гуртавалася вакол яе дзеля ажыўленьня сваёй веры ды энтузіязму" ("Mane nobiscum Domine", 4).* Спадзяемся, што моладзь у нашых парафіях з энтузіязмам і руплівасьцю прыме гэтыя словы Папы як падрыхтоўку да Сусьветнага Дня Моладзі, што будзе праходзіць у нямецкім горадзе Кёльн у жніўні 2005 году.

У сваім першапастырскім навучаньні Яго Сьвятасьць Ян Павел II нагадвае, што *"Еўхарыстыя будуе Царкву і такім чынам стварае сумоўе між людзьмі"* (Энцыкліка *"Ecclesia de Eucharistia", 24*). Актыўны і адказны ўдзел у Еўхарыстыі кшталтуе ў верніках своеасаблівую "культуру Еўхарыстыі". А *"культура Еўхарыстыі разьвівае культуру дыялогу, які знаходзіць у ёй сілу і падтрымку"* (*"Mane nobiscum Domine", 26*).

Як грэка-католікі, ад стагоддзяў традыцыйна прысутныя ў жыцьці Беларускага грамадзтва, прымаем гэтыя словы Сьвятога Айца як душпастырскую праграму і ў сьвяточны час Раства Хрыстовага хочам узмацніць нашую малітву за разьвіцьцё культуры дыялогу і братэрскага супрацоўніцтва Цэркваў у Беларусі дзеля агульнага дабра ўсіх грамадзянаў.

Асаблівай нагодай да такой малітвы будзе блізкі ўжо Тыдзень малітваў за еднасьць хрысьціянаў 18-25 студзеня. У студзені 2005 году сумесным малітвам хрысьціянаў ва ўсім сьвеце будуць спадарожнічаць словы Апостала Паўла *"Хрыстос — адзіны падмурак Царквы" (1 Кар 3, 1-23).* Тэксты біблійных чытаньняў і малітваў на гэты Тыдзень былі выбраныя міжканфесійным камітэтам хрысьціянаў Славакіі, у якім актыўна працавалі славацкія грэка-католікі. Гэта каштоўны прыклад дзейнасьці католікаў Усходніх Цэркваў у працэсе прымірэньня хрысьціянаў.

5 Дарагія ў Госпадзе Браты і Сёстры!

Паводле старажытнай традыцыі ў радасны час Раства Хрыстовага хачу разьдзяліць з усімі вамі сьвяточныя пажаданьні.

З нагоды сьвята Божага Нараджэньня сардэчна віншуем нашых Братоў і Сёстраў рыма-католікаў:

- Яго Эксцэленцыю Апостальскага Нунцыя ў Беларусі Архібіскупа Марціна Відавіча і ўсіх супрацоўнікаў Апостальскай Нунцыятуры ў Менску,
- Яго Эмінэнцыю Айца Кардынала Казіміра Сьвёнтака, Іх Эксцэленцыі дыяцэзіяльных і дапаможных Біскупаў, усіх сьвятароў і семінарыстаў, манахаў і манахінь ды ўсіх вернікаў.

Словы віншаваньняў са сьвятам Раства Хрыстовага накіроўваем да нашых Братоў і Сёстраў праваслаўных і да хрысьціянаў іншых канфесіяў.

Асаблівае сьвяточнае вітаньне прагнем перадаць беларускай інтэлігенцыі — усім, хто клапоціцца пра разьвіцьцё беларускай навукі і культуры.

Пастырскія словы калядных пажаданьняў хачу накіраваць да ўсіх вас — сьвятаслужыцеляў, манахаў і манахіняў, семінарыстаў ды ўсіх вернікаў Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы, да вашых сем'яў і блізкіх, а таксама да ўсіх хворых і адзінокіх.

Нашым шчырым жаданьнем зьяўляецца, каб словы гэтых сьвяточных віншаваньняў дайшлі да ўсіх Сыноў і Дачок Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы, што жывуць па-за душпастырскімі структурамі нашае Царквы і па-за межамі Бацькаўшчыны. Усіх вас узгадваем у асаблівы спосаб у сьвяточнай Боскай Літургіі ў нашых парафіях у Беларусі ў нядзелю, 26 сьнежня — сьвята Найсьвятой Багародзіцы і ўспамін Праведнага Язэпа.

Сардэчныя віншаваньні з нагоды Раства Хрыстовага і Новага Году накіроўваем да працаўнікоў Беларускай Праграмы Радыё Ватыкан, а таксама да ўсіх нашых Сяброў і Дабрадзеяў, да ўсіх людзей добрай волі.

*"Слава на вышынях Богу,*
*і на зямлі супакой людзям добрай волі" (Лк 2, 14).*

*Няхай праз малітвы Найсьвятой Багародзіцы*
*Госпад і Збаўца наш Ісус Хрыстос*
*абдаруе ўсіх вас сваім шчодрым блаславеньнем.*

З калядным вітаньнем:

***ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ! —***
***СЛАЎЦЕ ЯГО!***

+ архім. Сяргей Гаек +архім. Сяргей (Гаек)

*Рым-Менск, Раство Хрыстова 2004 году.*

# Візіт кардынала Альфонса Трухільё ў Беларусь



***23 і 24 кастрычніка 2004 году па запрашэньні Старшыні Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі кардынала Казіміра Сьвёнтака ў Беларусі знаходзіўся з візітам кардынал Альфонса Лопес Трухільё, Старшыня Папскай Рады па пытаньнях сям'і.***

У першы дзень свайго побыту ў нашай краіне высокі госьць узначаліў сьв. Імшу ў менскай архікатэдры Імя Найсьвяцейшай Панны Марыі, якую саслужылі таксама архібіскуп Мітрапаліт Менска-Магілёўскі кардынал Казімір Сьвёнтак, ардынарый біскуп Віцебскай дыяцэзіі Уладзіслаў Блін, дапаможны біскуп Пінскай дыяцэзіі Казімір Велікаселец, часовы паверaны па справах Ватыкана ў Рэспубліцы Беларусь ксёндз Генрык Мечыслаў Ягадзінські, шматлікія сьвятары з Менска-Магілёўскай архідыяцэзіі, Пінскай і Віцебскай дыяцэзій. У гаміліі кардынал А.Трухільё падкрэсьліў значнасьць для ўсёй Царквы і асабліва для вернікаў Беларусі прыкладу і сьведчаньня жыцьця кардынала Казіміра Сьвёнтака, які 21 кастрычніка адзначыў 90-гадовы юбілей.

Пасьля Сьвятой Імшы адбылася сустрэча з кардыналам Трухільё, падчас якой Старшыня Папскай Рады прадставіў даклад «Сям'я: выклікі і надзеі». У ім госьць з Ватыкану сказаў пра найбольшыя пагрозы для сям'і як асноўнага сацыяльнага інстытуту, а таксама пра тое, што неабходна зрабіць, каб забясьпечыць нармальнае разьвіцьцё асобных народаў і ўсяго чалавецтва. Асаблівую ўвагу кардынал А.Трухільё зьвярнуў на неабходнасьць прызнаць безумоўную вартасьць чалавечага жыцьця з моманту зачацьця і заклікаў супрацьстаць любым сьпекуляцыям, штоназіраюцца ў сьвеце па гэтым пытаньні.

У сваім дакладзе Старшыня Папскай Рады па пытаньнях сям'і імкнуўся адказаць на пытаньні журналістаў, якія былі яму загадзя прапанаваныя, а таксама пазнаёміць слухачоў з асноўнымі накірункамі дзейнасьці Сьвятога Пасаду па абароне сям'і, а менавіта з тым, чым займаецца дыкастэрый, або міністэрства, якое кардынал узначальвае. Даклад выклікаў жывую цікавасьць усіх прысутных, сярод якіх, акрамя духавенства, былі таксама прадстаўнікі ўладаў, сродкаў масавай інфармацыі і дыпламатычных колаў, у прыватнасьці, Мальтыйскага ордэну.

24 кастрычніка кардынал Трухільё прыбыў у Гародню, дзе быў прыняты біскупам Аляксандрам Кашкевічам, правёў шэраг сустрэч і таксама выступіў з дакладам.

*Catholic.By*

# Пасланьне Папы на Дзень міру

***«Ня будзь пераможаны злом, але перамагай зло дабром»,— такую назву мае сёлетняе традыцыйнае пасланьне Сьвятога Айца Яна Паўла II на Сусьветны Дзень міру.***

Да гэтага заклiку, якi ўзяты з Пасланьня сьв. апостала Паўла да рымлянаў, далучаюцца іншыя: адмовіцца ад ўжываньня сілы, якая ніколі ня вырашыць праблемаў, змагацца з беднасьцю, каб вырашыць урэшце праблему зьнешняга доўгу бедных краінаў і выканаць абяцаньні пра дапамогу, найперш для Афрыкі. Мір і прагрэс заможных краінаў, нагадвае Сьвяты Айцец, зьвязаны з разьвіцьцём бедных краінаў. Папа таксама зьвяртаецца з настойлівым заклікам да хрысьціянаў, каб яны не хавалі сваю надзею, што зыходзіць з веры ў Хрыста.

«Зло нельга перамагчы злом: калі абіраем гэты шлях, мы, замест таго, каб перамагчы зло, становімся пераможаныя гэтым злом»,— нагадвае Сьвяты Айцец. Далей Ён зьвяртае ўвагу, што «зло не зьяўляецца нейкай безыменнай сілай», «яно праходзіць праз свабоду чалавека» і «ў яго заўсёды ёсьць твар і імя: гэта твары і імёны мужчынаў і жанчынаў, якія свабодна абралі яго». «Зло — гэта ў рэшце рэшт трагічнае ўхіленьне ад патрабаваньняў любові»,— сьцьвярджае Ян Павел II у сваім пасланьні. Логіка хрысьціянскай любові, наадварот, «перамагае, калі існуе ў ёй да канца, любіць нават сваіх ворагаў». «Калі скіроўваеш погляд на сучаснае становішча ў сьвеце, немагчыма не канстатаваць уражваючага пашырэньня шматлікіх сацыяльных і палітычных праяваў зла»,— адзначае Папа.

Каб садзейнічаць устанаўленьню міру неабходна спрыяць разьвіцьцю агульнага дабра, якое не павінна зводзіцца да простага сацыяльна-эканамічнага дабрабыту, які пазбаўлены трансцэндэнтных мэтаў, таму што «Бог ёсьць найвышэйшая мэта Ягоных стварэньняў».

«Дзіцяці дастаткова быць зачатым, каб стаць уладальнікам правоў, каб яно магло разьлічваць на належную ўвагу і догляд ды на кагосьці, хто павінен будзе забясьпечыць усё гэта. Асуджэньне расізму, абарона меншасьцяў, дапамога ўцекачам, мабілізацыя міжнароднай салідарнасьці ў адносінах да ўсіх, хто ў патрэбе — гэта ўсяго толькі пасьлядоўнае прымяненьне прынцыпу сусьветнага грамадзянства»,— піша ў сваім пасланьні Сьвяты Айцец. Трэба забясьпечыць усім — асобам і краінам — асноўныя ўмовы для ўдзелу ў разьвіцьці. Гэта робіцца магчымым, калі зьнішчаюцца бар'еры і манаполіі, якія пакідаюць многія народы за бортам прагрэсу, сьцьвярджае Рымскі Архірэй. Папа нагадвае, што Царква заклікае тых, што вераць у Хрыста, праяўляць канкрэтнымі справамі, паўсюль, дзе б яны ні былі, найперш любоў да бедных». Ён падкрэсьлівае, што хрысьціяне «павінны засьведчыць прыкладам свайго жыцьця, што любоў — гэта адзіная сіла, якая здольна... скіроўваць гісторыю насустрач дабру і міру».

Напрыканцы свайго пасланьня Папа Ян Павел II піша: «У гэты Год, прысьвечаны Еўхарыстыі, няхай дзеці Царквы знойдуць у Найвялікшай Тайне любові крыніцу ўсякага яднаньня. Менавіта праз сьмерць і ўваскрасеньне Хрыста, якія ўтайнавана прысутнічаюць у кожным Еўхарыстычным Богаслужэньні, мы збаўлены ад зла і робімся здольнымі чыніць дабро. Менавіта праз новае жыцьцё, якое Ён падараваў нам, мы можам прызнаць адно аднаго братамі, не зважаючы на рознасьць мовы, нацыянальнасьці і культуры... ды разам уносіць асаблівы ўклад у будаваньне міру, што заснаваны на каштоўнасьцях справядлівасьці, свабоды й міру».

# 40-годдзе выхаду Дэкрэту «Аб Усходніх Каталіцкіх Цэрквах»

***18-19 лістапада 2004 году ў Рыме прайшоў сімпозіюм, прысьвечаны 40-годдзю выхаду Дэкрэту «Orientalium Ecclesiarum» «Аб Усходніх Каталіцкіх Цэрквах», які быў прыняты падчас II Ватыканскага сабору. У спатканьні, арганізатарам якога сталі Кангрэгацыя Ўсходніх Цэркваў і Папскі Ўсходні інстытут, прынялі ўдзел некалькі дзясяткаў сьпецыялістаў па ўсходніх каталіцкіх Цэрквах. Ад БГКЦ у працы сімпозіюму браў удзел Апостальскі Візітатар Архімандрыт Сяргей (Гаек), а старшынявалі на ім прэфект Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў, былы патрыярх Сірыйскай Каталіцкай Царквы кардынал Ігнат Майсей Дауд.***

Падчас сімпозіюму былі выказаныя розныя цікавыя пункты гледжаньня.

Падсакратар Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў мансіньёр Крыштаф Ніткевіч зазначыў, што дэкрэт аб усходніх каталіцкіх Цэрквах прызнае згаданыя царкоўныя супольнасьці ў якасьці моста паміж праваслаўным і каталіцкім сьветам. У дэкрэце асабліва падкрэсьліваецца, што ўсходнія Цэрквы павінны захоўваць уласную ідэнтычнасьць, літургічную і духоўную традыцыю.

Мансіньёр Ніткевіч таксама акрэсьліў практычныя праблемы, якія зьявіліся ў жыцьці ўсходніх каталіцкіх Цэркваў з часоў II Ватыканскага сабору. У тыя часы, напрыклад, украінцы і румыны ўсходняй каталіцкай традыцыі знаходзіліся пад прыгнётам камуністычнае дыктатуры. Цяпер яны атрымалі свабоду, але з гэтым прыйшлі і новыя праблемы. Напрыклад, іміграцыя грэка-католікаў на Захад ставіць праблему захаваньня іхняй тоеснасьці ў новым асяроддзі, дзе яны складаюць невялікую частку мясцовых католікаў лацінскай традыцыі.

На думку мяльхіцкага архімандрыта Ігната Дыка з сірыйскага гораду Алепа, «дэкрэт прыменены толькі часткова». «Трэба яшчэ пераадолець вельмі вялікую інэрцыю»,— адзначыў ён. Усходнім Цэрквам трэба даць магчымасьць «у поўні адрадзіць уласныя традыцыі», а Рымская курыя павінна ў поўні прызнаць царкоўныя правы іхніх патрыярхаў.

Архімандрыт Дык упэўнены, што патрыярхі Цэркваў усходняй традыцыі павінны мець тыя ж паўнамоцтвы, якімі карысталіся іхнія папярэднікі ў першым тысячагоддзі хрысьціянскай эры.

*Паводле Радыё Ватыкан*

# Экуменічная сустрэча тэолагаў у Адэсе

***З 18 па 22 кастрычніка 2004 году ў Адэсе адбылася сустрэча тэолагаў Цэнтральнай і Ўсходняй Еўропы. На ёй прысутнічалі прадстаўнікі Польшчы, Украіны, Беларусі, Славакіі, Чэхіі, Нямеччыны. Сярод іх варта назваць такія вядомыя асобы, як Станіслаў Напюркоўскі, Леанард Гурка, Андрэй Чая. Беларусь прадстаўляў архімандрыт Сяргей Гаек, а таксама адказны рэдактар газеты «Царква» Андрэй Крот.***

Усе ўдзельнікі сустрэчы былі аднадушныя ў тым, што тэалогія Цэнтральнай і Ўсходняй Еўропы мае сваю ўласную праблематыку, адметную ад заходнееўрапейскай. Часта тэолагі займаюцца экспаратам багасло̆ўскай праблематыкі, якая зьяўляецца чужой і незразумелай для краінаў былога сацыялістычнага блоку. А між тым больш актуальным для іх было б асэнсаваньне ўласнага мінулага, спадчыны вялікіх постацяў з часоў перасьледу рэлігіі — «прарокаў» сучаснасьці.

Наступным надзённым заданьнем для тэалогіі, асабліва ў Беларусі і Ўкраіне, зьяўляецца стварэньне тэалагічнай тэрміналогіі. Таму асабліва неабходна распрацоўваць уласныя падручнікі і тэрміналагічныя слоўнікі. Праца гэтая патрабуе шмат высілкаў і часу, але пры падрыхтоўцы ўласных тэолагаў без яе немагчыма абысьціся.

Удзельнікі форуму прынялі таксама рашэньне пра правядзеньне ў наступным годзе ў Рыме вялікага сімпозіюму. Ён будзе прымеркаваны да 60-годдзя канферэнцыі ў Ялце, на якой кіраўнікі вялікіх дзяржаваў падзялілі Еўропу на дзьве часткі. Праз гэты сімпозіюм багасловы хочуць зрабіць крок у накірунку духовага аб'яднаньня кантыненту, а таксама паказаць постсавецкай грамадзкасьці хрысьціянскае бачаньне чалавека.

Тэолагі мелі магчымасьць прачытаць некалькі лекцыяў у Адкрытым хрысьціянскім гуманітарна-эканамічным універсітэце, а таксама ў Школе апостальства сьвецкіх імя С.Шульмінскага. Своеасаблівай кульмінацыяй сустрэчы тэолагаў была супольная малітва за прымірэньне Цэркваў і народаў Еўропы падчас экуменічнага набажэнства ў касьцёле сьв. Клімента, у якім удзельнічалі прадстаўнікі розных веравызнаньняў на чале з рыма-каталіцкім біскупам Браніславам Бярнадзкім і біскупам Праваслаўнай Царквы Кіеўскага Патрыярхату Якавам. Падчас гэтага набажэнства гучала таксама і малітва па-беларуску.

**Андрэй КРОТ**

# Духоўныя каштоўнасьці Еўрапейскай супольнасьці

**10-12 сьнежня 2004 году ў Менску прайшла міжнародная канферэнцыя «Хрысьціянства і ўзаемапранікальнае суседзтва духоўных каштоўнасьцяў у Еўрапейскай супольнасьці». Канферэнцыя была арганізавана пры падтрымцы Беларускага Экзархату РПЦ, Апостальскай нунцыятуры ў Рэспубліцы Беларусь, Папскай Рады па справах еднасьці хрысьціянаў, Папскай Рады па справах культуры, Фонда «CNEWA», Фонда імя Конрада Адэнаўэра, Фонда «Renovabis» ды іншых праваслаўных і каталіцкіх арганізацыяў.**

На канферэнцыі з дакладамі выступілі: Мітрапаліт Менскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт, д-р Дзітхэр Дэмут, выканаўчы дырэктар фонду «Renovabis», д-р Гары Вачыкурас з Інстытуту постдыпломнай адукацыі па праваслаўнай тэалогіі ў Цэнтры Усяленскага Патрыярхату (Швайцарыя).

З дакладам «Хрысьціянства і выклікі секулярызму, бязьвер'я і рэлігійнай абыякавасьці» выступіў кардынал Поль Пупар, старшыня Папскай Рады па справах культуры, які прыехаў у Беларусь па запрашэньні Мітрапаліта Менскага і Слуцкага Філарэта.

У пачатку сваёй прамовы кардынал Поль Пупар падзякаваў за атрыманае запрашэньне і асабліва адзначыў, што «факт яго прысутнасьці на канферэнцыі зьяўляецца доказам новай вясны для Еўропы і новай вясны сяброўства паміж Праваслаўнай і Рыма-Каталіцкай Царквой».

Кардынал П. Пупар працытаваў Апостальскі ліст папы Яна Паўла II «*Egregiae Virtutis*», у якім сьвятыя Кірыла і Мятод ды сьв. Бенядзікт былі аб'яўлены апекунамі Еўропы і які датычыў евангелізацыйнай місіі Цэркваў: «Заклік Евангельля быў сродкам і прычынай для сумеснага разуменьня і саюзу паміж рознымі народамі раньняй Еўропы, і гэта дало сучаснай Еўропе агульную культурную і духоўную спадчыну».

У сваёй прамове Старшыня Папскай Рады па спраах культуры кардынал Поль Пупар падкрэсьліў: «...Хрысьціянская вера зьяўляецца асноўным элементам для Еўропы. Шмат людзей ад Атлантыкі да Уралу высока ацанілі ўклад хрысьціянскай веры ў стварэньне Еўропы. Для прыкладу можна назваць імёны сьвятых, якія інкультуравалі Евангельле, былі адукаванымі, думалі, маліліся і давалі адважнае сьведчаньне: сьв. Бенядзікт, сьв. Кірыла й Мятод, сьв. Баніфацый, сьв. Уладзімір, сьв. Сяргей Раданежскі, сьв. Тамаш Аквінскі, сьв. Томас Мор... Гэта толькі некаторыя з герояў нашай агульнай гісторыі, чыя хрысьціянская вера трансфармавала культуры для стварэньня Еўропы».

Гаворачы пра каштоўнасьці, якія мы бачым у Еўропе, кардынал П. Пупар зазначыў: «Вера — магутная крыніца для еўрапейскіх каштоўнасьцяў. Але адвечна, гэтыя каштоўнасьці — не індывідуалістычныя, яны паходзяць ад чалавечай годнасьці ў вобразе Тройцы, яны абавязкова грамадзкія і камунікатыўныя. Трансцэндэнтная крыніца каштоўнасьцяў прымае адвечную форму ў транскультуральных каштоўнасьцях, такіх як праўдзівасьць, справядлівасьць, чалавечая годнасьць, сацыяльная адказнасьць, агульнае дабро, любоў, сям'я».

Асаблівую ўвагу кардынал П.Пупар зьвярнуў на выклікі бязьвер'я, секулярызму і рэлігійнай абыякавасьці. Сёньня ваяўнічы атэізм адступае і ня мае больш вызначальнага ўплыву на грамадзкае жыцьцё. Але атэізм і бязьвер'е зьмянілі свой выгляд. Назіраецца незадаволенасьць як адносна ваяўнічага атэізму, так і традыцыйнай веры. Таму хутка ўзрастаюць рэлігійная абыякавасьць альбо практычны атэізм. У грамадзтвах, пазначаных секулярызацыяй, назіраецца тэндэнцыя да скарачэньня колькасьці практыкуючых вернікаў. Шмат хто заняўся духоўнымі пошукамі, але яны зьяўляюцца больш духоўнымі, чым рэлігійнымі, гэта ня ёсьць зварот да традыцыйных рэлігійных практык.

«У сучаснай культурнай сітуацыі адказ Царквы бязьвер'ю, секулярызму і абыякавасьці — новая евангелізацыя культуры. Евангелізацыя культуры не застаецца ў мінулым, але павінна ўліцца ў наступнае пакаленьне. Каб адказаць на гэтае заданьне Папская Рада па справах культуры падтрымлівае розныя ініцыятывы: малітву, персанальны дыялог, культурныя цэнтры (асабліва тэалагічныя інстытуты), прысутнасьць на грамадзкім форуме, *via pulchritudinis* (шлях прыгажосьці), падтрымку сям'і і жыцьця ды інш.»,— сказаў кардынал Поль Пупар.

Старшыня Папскай Рады па справах культуры завершыў свой выступ наступнымі словамі: «Наш выклік — не дазволіць нашай духоўнасьці і нашым культурам быць задушанымі рэлігійнай абыякавасьцю і бязьвер'ем, якія распаўсюджваюцца праз секулярызм. Наадварот, у гэтым зьменлівым сьвеце мы павінны гарантаваць, што нашая вера, нашыя духоўныя каштоўнасьці і нашыя культуры пераможуць секулярызм, дзелячыся нашай духоўнай спадчынай і хрысьціянскімі перакананьнямі з цэлым сьветам, супрацоўнічаючы з Божым планам, робячы гэта з надзеяй, што гэта частка працы, якую распачаў Госпад, знаходзячыся сярод нас. Бо гэта частка заданьня, якое Госпад устанавіў для нас: Ідзіце і навучайце ўсе народы, хрысьцячы іх у імя Айца, і Сына, і Духа Сьвятога *(Мц 28, 20)*».

# Рух «Факалярэ» правёў у Стамбуле кангрэс біскупаў

***Больш за пяцьдзясят ярархаў розных хрысьціянскіх Цэркваў прынялі ўдзел у XXIII Экуменічным кангрэсе біскупаў, які правёў рух «Факалярэ».***

У сустрэчы, якая адбывалася на працягу 8 дзён і завершылася 1 сьнежня, бралі ўдзел разам з каталіцкімі біскупамі лацінскага і ўсходніх абрадаў, праваслаўныя ярархі, а таксама біскупы англіканскай, лютаранскай, армянскай апостальскай ды іншых Цэркваў. Сабраныя на кангрэсе ярархі прадстаўлялі 18 краінаў сьвету.

Біскупы — удзельнікі Кангрэсу — сталі сьведкамі знакавай падзеі — урачыстай цырымоніі сустрэчы з Рыму мошчаў сьв. Яна Залатавуснага і сьв. Рыгора Багаслова, якія будуць цяпер захоўвацца ў царкве сьв. Юрыя — катэдральным саборы Канстанцінопальскіх патрыярхаў.

# Сустрэча расейскіх каталікаў візантыйскага абраду

***5-7 лістапада пад Санкт-Пецярбургам адбылася сустрэча сьвецкіх вернікаў Расейскай Каталіцкай Царквы візантыйскага абраду (Расейскай Грэка-Каталіцкай Царквы). У сустрэчы ўдзельнічалі прадстаўнікі супольнасьцяў з розных гарадоў Расеі, у тым ліку – Санкт-Пецярбурга, Масквы, Ніжняга Ноўгарада, Навасібірска, Мурманска і Серпухава. Прысутнічалі замежныя госьці, а таксама расейскія каталіцкія сьвятары візантыйскага абраду, якія служылі набажэнствы.***

Гэтая сустрэча — першы зьезд каталіцкіх вернікаў візантыйскага абраду ў Расеі з 1917 году. Нягледзячы на невялікую колькасьць удзельнікаў (28 чалавек), гэтая сустрэча стала важнай падзеяй для Расейскай Грэка-Каталіцкай Царквы, якая цяпер адраджаецца.

Сустрэча была прысьвечана супольнай малітве. Удзельнікі сустрэчы мелі магчымасьць разам маліцца на Боскай Літургіі сьв. Яна Залатавуснага і прыступіць да сьв. Тайнаў. Для вернікаў многіх парафіяў, далёка ня ўсе з якіх маюць сёньня свайго сталага сьвятара, гэта была вельмі важная падзея. Таксама прагучалі даклады, прысьвечаныя літургічнаму жыцьцю, гісторыі Расейскай Каталіцкай Царквы візантыйскага абраду, сучаснаму кананічнаму статусу і перспектывам яе расейскага Экзархату. Удзельнікі сустрэчы прынялі зварот да сваіх братоў у веры, а таксама да праваслаўных вернікаў Расеі і прадстаўнікоў расейскіх пратэстанцкіх супольнасьцяў.

Адраджэньне Расейскай Каталіцкай Царквы візантыйскага абраду, практычна зьнішчанай падчас савецкіх перасьледаваньняў за веру, стала прыкметным у апошнія гады. Асаблівую ўвагу сродкаў масавай інфармацыі прыцягнуў Сабор духавенства расейскага Экзархату гэтай Царквы, які адбыўся пад Омскам напрыканцы жніўня гэтага году. Падчас Сабору функцыі часова кіруючага Экзархатам, згодна з царкоўным правам, прыняў Протапрасьвітар Сяргей (Галаванаў) з Омску. Ён будзе выконваць неабходныя царкоўна-адміністрацыйныя функцыі да канчатковага ўрэгуляваньня царкоўнай сітуацыі расейскіх каталікаў візантыйскага абраду Ватыканам. Протапрасьвітар Сяргей (Галаванаў) накіраваў удзельнікам сустрэчы сьвецкіх вернікаў сваё прывітальнае пасланьне, у якім заклікаў іх да ўзмоцненай малітвы і сьведчаньня пра магчымасьць еднасьці хрысьціянаў.

*Інфармацыя падрыхтавана паводле паведамленьняў AGNUZ, Catholic.By, Радыё Ватыкан і іншых прэсавых крыніцаў.*

# Сынакса БГКЦ у Івацэвічах


© Алесь Трафіменка

***6 лістапада 2004 году ў Івацэвічах адбылася Сынакса Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы. У ёй удзельнічалі сьвятары, семінарысты, старшыні і сябры Радаў усіх грэка-каталіцкіх парафіяў Беларусі на чале з Апостальскім Візітатарам архімандрытам Сяргеем Гаекам і дэканам БГКЦ айцом протапрасьвітарам Віктарам Данілавым.***

Сынакса, па-грэцку — *synaxis*, азначае ўрачысты сход, сьвяткаваньне, і таму сустрэча ў Івацэвічах не была звычайным сходам, на якім вырашаюцца бягучыя пытаньні ці ствараюцца стратэгічныя праграмы. Яна насіла хутчэй характар малітоўнай сустрэчы і падзякі за пасьпяховы працэс перарэгістрацыі грэка-каталіцкіх парафіяў, якая закончылася ў Беларусі ўвосень 2004 году. Таму першым этапам Сынаксы стала асьвячэньне помніка (у 120-ыя ўгодкі з дня нараджэньня) выдатнаму і ахвярнаму дзеячу беларускай хрысьціянскай культуры, каталіцкаму сьвятару візантыйскага абраду айцу Баляславу Пачопку на яго магіле ў Целяханах. Таксама ў гэты ж дзень удзельнікі сустрэчы маліліся за супакой душаў былых парафіянаў айца Баляслава з Бабровічаў (Івацэвіцкі р-н), якія загінулі падчас карнай аперацыі фашыстаў.

Другім этапам Сынаксы была ўласна сустрэча прадстаўнікоў парафіяў. На самым яе пачатку Архімандрыт Сяргей падзякаваў усім тым, хто прычыніўся да ўшанаваньня памяці і ўсталяваньня помніка айцу Баляславу Пачопку, а асабліва журналістам Ігару Бараноўскаму і Зьмітру Паталятаву ды гісторыку Анастасіі Ільіной з Берасьця за ініцыятыву і намаганьні па ўсталяваньні гэтага помніка і за правядзеньне дасьледаваньняў жыцьця і дзейнасьці а. Баляслава Пачопкі. Асобная падзяка была выказана таксама аўтару помніка мастаку з Баранавічаў Міколу Коласу.

Потым была прачытана грамата Першаярарха УГКЦ Уладыкі Любаміра Гузара пра блаславеньне архімандрыта Сяргея Гаека на нашэньне панагіі і на блаславеньне народу дыкірыем і трыкірыем. Гэты літургічны прывілей стаў свайго роду працягам жэсту Сьвятога Айца Яна Паўла II, які 11 лютага 2003 году, падчас візіту каталіцкіх ярархаў Беларусі *ad limina Apostolorum*, падарыў Архімандрыту Сяргею біскупскі крыж. Сам айцец Архімандрыт паведаміў, што гэтае блаславеньне мела месца падчас Сіноду

# БГКЦ: духоўная лучнасьць са Сьвятым Айцом

*Адной з добрых нагодаў, каб выказаць сваю глыбокую пашану Першапастыру Каталіцкай Царквы Яну Паўлу II за яго служэньне еднасьці хрысьціянаў і каб засьведчыць еднасьць беларускіх грэка-католікаў з Апостальскай Сталіцай зьяўляецца адзначэньне ва ўсім каталіцкім сьвеце 16 кастрычніка Гадавіны абраньня Сьвятога Айца Яна Паўла II на Рымскі Пасад сьвятога апостала Пятра, а таксама яго імяніны, якія адзначаюцца 4 лістапада. Ніжэй падаем афіцыйныя дакументы, накіраваныя кіраўніцтвам БГКЦ на імя Яго Сьвятасьці Яна Паўла II і адказ з Дзяржсакратарыяту Ватыкану.*



Archimandrita
SERGIO GAJEK, M.I.C., S.E.O.D
Visitatore "ad nutum Sanctae Sedis"
per i greco-cattolici in Bielorussia
c/o Padri Mariani, via Corsica, 1
I. 00198 ROMA

Indirizzo postale in Bielorusssia:
c/o Nunziatura Apostolica in Minsk

Minsk-Roma, 4 novembre 2004.

**Sua Santità**
**Santo Padre Giovanni Paolo II**
**Papa di Roma**
**e Pastore della Chiesa Universale**
**R O M A**

Найсьвяцейшы Ойча!

Ад імя духавенства і вернікаў Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы
жадаю выразіць Вашай Сьвятасьці шчырыя віншаваньні
з нагоды Дня Вашага нябеснага Патрона.

Як у Гадавіну Вашага Выбару на Рымскі Пасад
сьвятога Пятра - 16 кастрычніка,
так і сёньня, у Дзень Вашых Імянінаў - 4 лістапада,
сьвятары, манахі, манахіні, семінарысты і вернікі
Грэка-Каталіцкай Царквы на Беларусі
у асаблівы спосаб моляцца за Вашую Сьвятасьць
і з глыбіні сэрца выражаюць
найлепшыя пажаданьні "на многія леты".
Як знак нашай глыбокай пашаны і адданьня
перадаю Вашай Сьвятасьці
кнігу-сьведчаньне сьвятара-вязьніка сталінскіх лагераў,
Протапрасьвітара нашай Царквы а. Віктара Данілава з Гродна
і прашу для усіх нас, а асабліва для яго,
Вашага Апостальскага Блаславеньня.

З сыноўскім адданьнем у Госпадзе

Арх. Сергей (Гаек)
Архімандрыт Сяргей Гаек
Апостальскі Візітатар



SEGRETERIA DI STATO
PRIMA SEZIONE - AFFARI GENERALI
N. 565.300

Ватыкан, 24 лістапада 2004 года

Вялебны Архімандрыт,

Свяцейшы Айцец з радасцю атрымаў Вашы шчырыя віншаванні, падмацаваныя адпаведнымі малітвамі, якія Вы накіравалі яму з нагоды імянінаў і гадавіны абрання на пасад Апостала Пятра таксама і ад імя грэка-каталіцкай суполкі. Папа Ян Павел II дзякуе Вам таксама і за накіраваную яму ў дар кнігу-сведчанне вялебнага протапрэсвіцера Віктара Данілава.

Яго Святасць, дзякуючы Вам за гэтую выяву духоўнай блізкасці, якая надае яму сілы ў выкананні свайго служэння, заклікае Божую ласку і заступніцтва Найсвяцейшай Дзевы Марыі для Вас, для святара-героя Віктара Данілава і для ўсіх тых, што мелі дачыненне да гэтага шчырага жэста, і ад усяго сэрца накіроўвае ўсім вам сваё Апостальскае благаславенства.

Карыстаючыся нагодай, запэўніваю Вас у сваіх братэрскіх пачуццях.

Ваш у Хрысце,--

Намеснік Дзяржаўнага сакратара

Вялебнаму Архімандрыту
СЯРГЕЮ ГАЕКУ
Апостальскаму візітатару для грэка-католікаў
Апостальская нунцыятура

МІНСК - Беларусь

Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы, куды ён быў запрошаны, каб пазнаёміць яго ўдзельнікаў з сучасным станам БГКЦ, а асабліва пра працэс беатыфікацыі беларускага экзарха Антона Неманцэвіча (SJ). У сувязі з гэтым архімандрыт Сяргей падзякаваў усім, хто маліўся за праслаўленьне айца А.Неманцэвіча. Вынікам малітвы стала знаходка важных дакументаў, якія датычаць абставінаў сьмерці айца Экзарха.

Ад асэнсаваньня мінулага нашай Царквы Апостальскі Візітатар перайшоў да сёньняшняга дня Грэка-Каталіцкай Царквы ў Беларусі. Ён зачытаў грамату аб прызначэньні віцэ-дэканам БГКЦ ераманаха Лявонція (Тумоўскага) з Полацку. Пры гэтым Архімандрыт выказаў падзяку айцу Ігумену манахаў студытаў Бенядзікту за згоду на такое прызначэньне.

Заключаю часткаю гэтай сесіі быў рэферат дэкана БГКЦ протапрасьвітара Віктара Данілава «Сьведчаньне сьвецкіх каталікаў у Царкве сёньня», які стаў прадстаўленьнем своеасаблівай духоўнай базы хрысьціянскага сьведчаньня.

І нарэшце трэці, кульмінацыйны этап Сынаксы — супольная Еўхарыстыя, якая зьяднала ў Хрысьце ўсіх удзельнікаў сустрэчы, да якіх далучыліся таксама мясцовыя вернікі.

Завяршыла Сынаксу вячэрняя сесія для сьвятароў і прадстаўнікоў парафіяў, на якой абмяркоўваліся надзённыя пытаньні парафіяльнага жыцьця.

**Андрэй Крот**

# Сьвята Апостала Ўсходу

***У нядзелю, 5 сьнежня 2004 году, грэка-каталіцкая парафія сьвятых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя ў Берасьці сьвяткавала дзень аднаго з сваіх патронаў — апекуна хрысьціянскага Ўсходу апостала Андрэя Першапакліканага, роднага брата сьв. Пятра, апекуна Заходняй Царквы.***

Урачыстасьць сабрала мноства вернікаў, у тым ліку братоў рыма-каталікаў і праваслаўных. Адметнасьцю сёлетніх сьвяткаваньняў стала ўпершыню адслужаная ў берасьцейскай грэка-каталіцкай царкве архірэйская служба. Сьвятую Літургію ўзначальваў Апостальскі Візітатар Архімандрыт Сяргей (Гаек) разам з якім саслужылі берасьцейскі парах а. Ігар Кандрацьеў і а. Андрэй Абламейка з Менску, які гаварыў таксама казаньне з нагоды сьвята.

Радасьць сьвята еднасьці ўжо другі год запар разьдзяляюць з беларускімі грэка-католікамі ў Берасьці украінскія браты — манахі-рэдэмптарысты, да якіх сёлета далучыліся сёстры рэдэмптарысткі. Сярод гасьцей сьвята таксама прыемна было адзначыць прадстаўнікоў польскага консульства ды дзяржчыноўнікаў раённага, гарадзкога і абласнога ўзроўню, якія ўпершыню прысутнічалі на набажэнстве ў грэка-каталіцкім душпастырскім цэнтры ў Берасьці.

Пасьля Боскай Літургіі ўдзельнікі парафіяльнай супольнасьці «Мараната» прапанавалі прысутным канцэрт з царкоўных твораў на грэцкай, царкоўна-славянскай і беларускай мовах. Па традыцыі ўсё завершыла агапа — сумесны братэрскі пачастунак.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

# СЛОВА

## НА ПАНІХІДУ І АСЬВЯЧЭНЬНЕ ПОМНІКА НА МАГІЛЕ НАРОДНАГА ПІСЬМЕНЬНІКА БЕЛАРУСІ — СЬВЯТОЙ ПАМЯЦІ ВАСІЛЯ ЎЛАДЗІМІРАВІЧА БЫКАВА

*Дарагая Сям'я заснулага Васіля Ўладзіміравіча,*
*Любыя ў Госпадзе Браты і Сёстры,*
*Шаноўныя Сябры!*


© Алесь Грыдзюшка

Сардэчнае, пастырскае прывітаньне ў Імя Гасподняе ўсім вам, хто сёньня зьбіраецца ля магілы народнага пісьменьніка Беларусі — сьвятой памяці Васіля Ўладзіміравіча Быкава. Над ягонай магілай служыцца паніхіда — малітва Царквы, якая перад Госпадам гісторыі ўзгадвае ягоны шлях шляхетнага і гераічнага жыцьця, ягоны духоўны подзьвіг служэньня суайчыньнікам.

*Найміласэрнаму Госпаду молімся:*

• каб удзелам заснулага слугі Божага Васіля была вечная радасьць, прыгатаваная для сьвятых спрадвеку,

• каб душа яго знайшла прытулак у месцы сьветлым, дзе ўсе сьвятыя спачываюць,

• каб яму атрымаць у спадчыну вечнае валадарства нябеснае.

*Дай яму, Госпадзе!*

Дарагія ў Госпадзе Браты і Сёстры!

У традыцыйны Дзень Дзядоў — дзень успаміну продкаў — вашая малітва над магілай сьветлай памяці Васіля Ўладзіміравіча — вялікага беларускага пісьменьніка і патрыёта, выяўляе глыбокае перакананьне, што ягонае прароцкае вяшчаньне духоўных каштоўнасьцяў, якія вырастаюць з натхнёнай Евангельлем беларускай культуры, застаецца запаветам актуальным на сёньняшні час і на будучыню.

Як Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі ўсім сэрцам далучаюся да гэтай вашай малітвы, якую на магіле заснулага слугі Божага Васіля, з майго пастырскага блаславеньня ўзначальвае Кіраўнік Сакратарыяту Апостальскага Візітатара — вялебны айцец Андрэй Абламейка.

Вашыя малітвы далучаю да малітваў, якія сёньня прыношу Госпаду ў Рыме на магілах мучанікаў старажытнай Царквы. Хай праз заступніцтва сьвятых мучанікаў і сьведкаў Госпада, асабліва ўсіх новамучанікаў Беларускіх, многія нашыя суайчыньнікі — у Беларусі і на эміграцыі — адкрыюць шлях да Бога і да Царквы, як гэта сталася на шляху жыцьця і прароцкага сьведчаньня сьвятой памяці Васіля Ўладзіміравіча.

Малюся разам з вамі, каб помнік, які сёньня асьвячаецца на ягонай магіле, заклікаў усіх нас і ўсіх людзей добрай волі, да шчырай і дзейснай любові Беларусі, якой прыклад даў нам Васіль Уладзіміравіч.

Тут, у Рыме, не магу не ўзгадаць Блаславеньня, якое для ўсіх прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, што працуюць для разьвіцьця беларускай хрысьціянскай культуры, атрымаў у чэрвені шчыры сябра Васіля Ўладзіміравіча — Рыгор Барадулін. У моцы гэтага Блаславеньня будзьма нястомнымі сьведкамі надзеі, якая выцякае з Евангельля Ісуса Хрыста.

*Блаславеньне Гасподняе хай будзе на ўсіх вас, паскаю Яго і чалавекалюбствам, на ўсе часы, цяпер і заўсёды, і на вякі вякоў. Амін.*

**Рым, 2 лістапада 2004 году** — **Архімандрыт Сяргей (Гаек), Апостальскі Візітатар**

# ПОЛАЦКІЯ ГРЭКА-КАТАЛІКІ ЎШАНАВАЛІ АХВЯРАЎ БАЛЬШАВІЦКАГА ТЭРОРУ

***Дзяды на Полаччыне адзначаныя памінальнай урачыстасьцю, што прайшла ля Крыжа пакуты, усталяванага ў той мясьціне, дзе, па сьведчаньні відавочцаў, бальшавікі расстрэльвалі ў 1930-х гадах вязьняў полацкай турмы НКВД.***

Крыж у памяць ахвяраў тэрору быў усталяваны ў 1992 годзе ля Бельчыцкіх могілак. Там, з ініцыятывы полацкай грэка-каталіцкай грамады, на Дзяды ладзяцца памінальныя ўрачыстасьці. Гаворыць грэка-каталіцкі ераманах айцец Лявонці: "Мы кожнага году зьбіраемся на гэтым месцы, у Бельчыцах, ля Крыжа, усталяванага ў гонар памяці ахвяраў генацыду, каб ушанаваць іхную памяць, ушанаваць людзей, якія загінулі за свабоду і незалежнасьць нашае Бацькаўшчыны".

Напачатку ўрачыстасьці прагучалі словы пра трагічныя наступствы генацыду беларускай нацыі, і пра тое, што чорная кніга бальшавіцкіх злачынстваў дагэтуль цалкам не прачытаная і ёсьць небясьпека, што ў яе могуць быць упісаныя новыя старонкі. Затым айцец Лявонці зладзіў задушную адправу ў памяць бязьвінна забітых беларусаў: ахвяраў бальшавіцкага ды фашыстоўскага тэрору. Пры канцы ўрачыстасьці ля падножжа Крыжа пакуты былі запаленыя сьвечкі, а яе ўдзельнікі прасьпявалі беларускі гімн "Магутны Божа".

*Беларуская Служба Радыё «Свабода» (www.svaboda.org)*

**Вінцэсь МУДРОЎ**, *г.Полацак*

# Разважаньні на Ружанец

*Абудзі, мая цытра, свае песьні ў гонар Дзевы Марыі!*
*Узьнясі голас і засьпявай гімн Гары Давідавай, што нарадзіла Жыцьцё*
СЬВ. АХРЭМ СІРЫЙСКІ

*Улюбёныя ў Госпадзе браты і сёстры!*

*У гэтым нумары мы заканчваем друкаваць разважаньні для малітвы Ружанцу і прапануем вам частку III — слаўныя таямніцы, пра якія ўзгадваем у сераду і нядзелю. У трох папярэдніх нумарах нашай газеты мы прапанавалі вам разважаньні на іншыя тры часткі малітвы Ружанцу: на радасныя таямніцы (частка I, над імі разважаем у панядзелак і суботу), балесныя таямніцы (частка II, аўторак і пятніца) і таямніцы сьвятла (частка IV, чацьвер).*

*Тыя, хто ня ведае, як маліцца на ружанцы, структуру гэтай малітвы могуць знайсьці ў грэка-каталіцкім малітоўніку «Цябе, Бога, хвалім». Што да гэтых разважаньняў, адзначым наступнае. Да кожнае таямніцы мы падаем адпаведны ўрывак з Евангельля, тэкст Сьвятых Айцоў (альбо іншых царкоўных аўтараў пераважна з I-VII стст.), малітву з нашай царкоўнай богаслужбовай традыцыі (пераважна гэта трапары і кандакі, якія сьпяваюцца падчас Боскае Літургіі) і кароткае падсумаваньне, якое хутчэй можна назваць намерам, у якім можна паманіцца. Выкарыстоўваць гэтыя чатыры часткі прапанаваных вам разважаньняў можна так, як вам асабіста будзе зручней: можна браць толькі нешта адно, напрыклад, малітву ці Евангельле падчас кожнае таямніцы; можна браць па 2 альбо 3 элементы (напрыклад, напачатку Евангельле, а пасьля тэкст Сьвятых Айцоў); можна браць і ўсе 4 часткі разважаньняў, да таго ж у той пасьлядоўнасьці, якая вам больш адпавядае, а неабавязкова так, як падаем мы. Гэтая малітва залежыць ад вас, бо гэта — вашая малітва.*

## Частка III. Слаўныя таямніцы

### 1. УВАСКРАСЕНЬНЕ ГОСПАДА НАШАГА ІСУСА ХРЫСТА

***I. Евангельле Мц 28:1-10 або Ян 20: 1-18***

***II. Тэкст Айцоў***

«Дзень Уваскрасеньня! Як жа шчасьлівы для мяне гэты пачатак... Учора я даў сябе ўкрыжаваць разам з Хрыстом, а сёньня разам з Ім праслаўляюся; учора даў сябе забіць з Ім, сёньня павяртаюся да жыцьця; учора я зышоў з Ім у магілу, сёньня ж з Ім атрымліваю ўваскрасеньне.



Прынясем жа дары Таму, Хто для нас прыняў пакуты і для нас ўваскрос. Можа, думаеце, што кажу пра золата ці срэбра?.. Гэта ўсё матэрыяльнае, паходзіць з зямлі і на ёй застаецца, ды й большую частку гэтага заўжды маюць у карыстаньні людзі злыя і нявольнікі зямных дабротаў... Мы ж, замест гэтага, прынясем у дары саміх сябе, найкаштоўнейшы і найпрыемнейшы для Бога скарб... Станем падобныя да Хрыста, бо Хрыстос стаў падобны да нас: станем праз Яго багамі, бо Ён дзеля нас стаў чалавекам! Ён узяў на сябе горшае, каб нам даць лепшае. Стаў убогім, каб Ягонай беднасьцю мы ўзбагаціліся. Стаў слугою, каб мы атрымалі свабоду... Памёр, каб нас ацаліць... Няхай жа кожны дасьць усё, што мае, няхай усё прынясе ў дар Таму, Хто самога сябе аддаў у адкупленьне за нас. (Гэтай нашай) найбольшай ахвярай павінны быць удзел у гэтай таямніцы, г. зн., каб мы дзеля Яго прынялі ўсе тыя рысы, якія Яму ўласьцівыя, бо Ён дзеля нас прыняў нашыя».

/СЬВ. РЫГОР БАГАСЛОЎ/

***III. Малітва — Задастойнік сьвята (Тон 4)***

*Анёл усклікнуў Поўнай ласкі: Чыстая Дзева, радуйся! І зноў кажу: Радуйся, бо Твой Сын уваскрос на трэці дзень з магілы і мёртвых узьняў з Сабою. Людзі весяліцеся!*

*Сьвяціся, сьвяціся, Новы Ерусаліме, бо слава Гасподняя зазьзяла над табой. Радуйся сёньня і весяліся, Сыёне. Ты ж, Чыстая, красуйся, Багародзіца, бо Той, каго Ты нарадзіла, з мёртвых устаў.*

***IV. Кароткае разважаньне***

Узгадваючы Ўваскрасеньне Госпада нашага Ісуса Хрыста, давайце проста падзякуем Госпаду за Ягоныя дары. Падзякуем Госпаду і ўславім Таго, Хто прыйшоў дзеля нас на зямлю, прыняў цярпеньні і Сваім Уваскрасеньнем перамог грэх і сьмерць. Падзякуем за Суцяшальніка — Духа Сьвятога, Якога Ён паслаў нам. Падзякуем Госпаду Ісусу за Ягоную апеку і Ягоную Любоў. Уславім Яго, бо Ён — наш Бог, Ён — наш Збаўца і Адкупіцель і дзякуючы Яму мы зноў вяртаемся ў стан дзяцей Божых, прыбягаем да Айца нашага Нябеснага і, сабраўшыся разам, славім Яго.

Слава Табе, Госпадзе, слава Табе.

### 2. УЗЬНЯСЕНЬНЕ ГОСПАДА НАШАГА ІСУСА ХРЫСТА

***I. Евангельле Лк 24:50-53***

***II. Тэкст Айцоў***

«Яшчэ праз прарокаў абяцаў (Бог) у апошнія часы выліць Духа (Свайго) на слугаў і служак Сваіх, каб прарракавалі. Дзеля гэтага Дух зышоў і на Сына Божага, Які стаўся Сынам Чалавечым. Зышоў, каб разам з Ім прызвычаіцца быць сярод людзей, спачываць на іх і жыць у іх, гэтых творах рук Божых, каб выконваць у іх волю Айца і аднаўляць закаранелых у граху да новага жыцьця ў Хрысьце.

Гэты Дух, які мае ўладу прывесьці ўсе народы да брамаў Жыцьця і да адкрыцьця Новага Запавету, па Ўзьнясеньню Госпада, як гэта падае сьв. Лука, у дзень Пяцідзясятніцы зышоў на вучняў. Таму і сьпявалі яны супольна рознымі мовамі гімны, якія славілі Госпада, бо Дух яднаў разьяднаныя народы і пачаткі ўсіх гэтых народаў складаў у дары Айцу. Гэтага ж Духа Сьвятога Госпад абяцаў паслаць нам як Суцяшальніка, каб нас падрыхтаваць да (сустрэчы з) Богам. <...>



На Госпадзе спачыў Дух Божы, «Дух мудрасьці й розуму, Дух рады й моцы, Дух пазнаньня і пабожнасьці» *(Іс 11:2)*. (І менавіта) Яго Госпад даў Царкве».

/СЬВ. ІРЫНЭЙ ЛІЁНСКІ/

***III. Малітва — Кандак Узьнясеньня (Тон 6)***

*Споўніўшы справу нашага збаўленьня і зьяднаўшы зямное з нябесным, Ты ўзьнёсься ў славе, Хрысьце Божа наш, не адлучыўшыся ад нас, але неразлучна прабываючы з намі і кажучы тым, што любяць Цябе: «Я з вамі, і ніхто ня зможа нічога супраць вас».*

***IV. Кароткае разважаньне***

Узгадваючы ўзьнясеньне Госпада нашага Ісуса Хрыста на неба, спагляньма на свае думкі. Ці яны таксама ўзносяцца заўсёды ў неба, да Бога? Ці імкнемся, каб яны былі чыстыя і шчырыя? Думкі вядуць за сабою ўчынкі. Ачышчаныя думкі дапамагаюць нам бачыць іншых людзей ці іншыя рэчы па-божаму, па-сапраўднаму, без выкрыўленьня і асуджэньня. Яны вырашаюць, ці нашае вока будзе чыстае, а значыць і ці нашае сэрца будзе чыстае.

Памолімся, каб Госпад дараваў нам цярпеньне й вытрываласьць на нашым шляху ачышчэньня сваіх думак і прасьвятленьня сваіх вачэй, каб і тыя, і іншыя скіравалі да неба, да Бога. Тады зможам пабачыць Бога ў сваіх бліжніх, бо ў гэтым выконваюцца словы Ісуса: «Шчасьлівыя чыстыя сэрцам, бо яны Бога пабачаць».

## 3. ЗЫХОД СЬВЯТОГА ДУХА (СЁМУХА)

*I. Новы Запавет: Дзеі Апосталаў 2:1-12*

*II. Тэкст Айцоў*

«...Ці бачыце гэтае невымоўнае чалавекалюбства? Перад гэтымі днямі Ён [наш Госпад] узышоў на неба, прыняў пасад Уладара і сеў праваруч Айца, а сёньня пасылае да нас Духа Сьвятога, а праз Яго падае нам незьлічоныя даброты.



І што, скажы мне, з таго, што датычыцца нашага збаўленьня, дадзена нам ня Духам? Ім мы звальняемся з нявольніцтва [граху] і атрымліваем свабоду, зноў стаем сынамі [Божымі] і нанова, можна так сказаць, ствараемся. <...> Праз Духа Сьвятога мы атрымалі шэрагі сьвятароў і настаўнікаў; з гэтае крыніцы і дары прароцтваў, і дараваньне ацаленьняў. Таксама і ўсё іншае, што звычайна красіць яе, Царква атрымлівае адсюль. <...>

Пачнем і мы сьвяткаваць згодна з годнасьцю падараваных нам дабротаў. Ня брамы будзем упрыгожваць вянкамі, але прыўкрасім душы, ня плошчу аздабляючы покрывамі, але прасьвятляючы душы вопраткаю цнотаў, каб такім чынам мы маглі прыняць Ласку Духа і сабраць плады, што паходзяць ад Яго <...> — любоў, радасьць, супакой... *(Гал 5: 22)*».

/СЬВ. ЯН ЗАЛАТАВУСНЫ/

*III. Малітва — кандак сьвята (Тон 8)*

*Калі Ўсявышні, зышоўшы, мовы зьмяшаў, Ён разьдзяліў між сабой народы; калі ж паслаў вогненныя языкі, да еднасьці ўсіх паклікаў. Дзеля гэтага мы ўсе згодна славім Усесьвятога Духа.*

*IV. Кароткае разважаньне*

Узгадваючы Зыход Сьвятога Духа на апосталаў зьвернем увагу на дары Духа Сьвятога, на Ягоную Ласку, што даецца кожнаму з нас. Сапраўды, кожны з нас мае дары Духа Сьвятога, толькі праяўляюцца яны ў кожнага па-рознаму, унікальна: праз царкоўныя служэньні, праз ўсялякія іншыя пакліканьні й таленты.

Памолімся, каб Госпад навучыў нас разпазнаць сваё пакліканьне і пабачыць нашыя таленты, дапамог нам не закапаць іх у зямлю, а разьвіць іх і служыць імі нашай Царкве і Бацькаўшчыне ды на славу Божую. А праз гэтае служэньне, каб мы атрымалі і тыя плады, што паходзяць ад Духа, сярод якіх найвышэйшы — любоў.

## 4. УСЬПЕНЬНЕ НАЙСЬВЯТОЙ БАГАРОДЗІЦЫ (УНЕБАЎЗЯЦЬЦЕ)

*I. Новы Запавет: Адкр 21:1-4*

*II. Тэкст Айцоў*

«О, цудоўны адыход, які справіў, што Ты, [Найсьвятая Багародзіца] ідзеш да Бога! Хаця б гэтую ласку — у чым ня маем сумніву — даў Бог усім слугам, што любяць Яго, то ўсё роўна бязьмежная розьніца між імі і Табою, Маці. Як жа тады мы павінны назваць таямніцу, што зьдзейсьнілася ў Табе? Ці ж сьмерцю? Хоць Твая найсьвяцейшая душа пакінула — як гэтага вымагала прырода — Тваё найсьвятое і беззаганнае цела, што было пахавана, але не засталося яно ў сьмерці й не было зьнішчана.



Як пры нараджэньні засталося нязьменным дзявоцтва, так пры адыходзе з гэтага жыцьця Тваё цела захавалася без пашкоджаньня і было перанесена да лепшага і больш боскага месца, дзе ўжо не зазнае сьмерці, але будзе трываць бясконца. <...>

Таму не магу назваць Твой цудоўны пераход сьмерцю, толькі сном і падарожжам, альбо лепш уваходам да жыльля Бога. <...>

І мы сёньня знаходзімся каля Цябе, Уладарка, <...> аддаем Табе розум, сэрца, цела, усіх сябе, ушаноўваючы Цябе па меры сваіх сілаў псальмамі, гімнамі й сьпевамі, поўнымі духа.

/СЬВ. ЯН З ДАМАСКУ/

*III. Малітва — Трапар сьвята (Тон 1)*

*Дзявоцтва захаваўшы ў сынанараджэньні Тваім, пасьля сьмерці сьвету не пакінула Ты, Багародзіца: да жыцьця перастравілася Ты, будучы Маці жыцьця, і малітвамі Тваімі выбаўляеш ад сьмерці душы нашыя.*

*IV. Кароткае разважаньне*

Узгадваючы ўсьпеньне і ўнебаўзяцьце Найсьвятое Багародзіцы, памолімся аб ласцы добрай сьмерці для ўсіх людзей. Памолімся, каб кожны чалавек быў заўсёды прыгатаваны стаць перад аблічам Госпада, каб ніколі не адкладаў свайго пакаяньня і навяртаньня на пазьнейшы час. Няхай кожны памятае, што тут, на зямлі, ён толькі прыхадзень, падарожнік, і менавіта пасьля цялеснай сьмерці ён вяртаецца ў сапраўдную бацькаўшчыну, дзе яго сустрэне ягоны Айцец нябесны і ягоная сям'я, што складаецца са сьвятых і анёлаў, на чале з Найсьвятой Багародзіцай, Якая ўжо зараз моліцца за нас, каб нашае вяртаньне да жыцьця вечнага адбылося ў радасьці й шчасьці.

## 5. ПОКРЫВА НАЙСЬВЯТОЙ БАГАРОДЗІЦЫ (ПРАСЛАЎЛЕНЬНЕ БАГАРОДЗІЦЫ Ў НЕБЕ)

*I. Евангельле Лк 1:46-55*

*II. Тэкст Айцоў*

«Ты, Найчысьцейшая Спадарыня, поўная дабрыні й міласьці, суцяшэньне хрысьціянаў, збаўленьне грэшнікаў, не пакідай нас сіротамі без апекі! Дзе ўкрыемся без Цябе? Што ж станецца з намі, Найсьвяцейшая Багародзіца, Якая ёсьць духам і жыцьцём хрысьціянаў? Як нашае цела адзначаецца жыцьцёвай энергіяй і духам, так і Тваё пачэснае імя, нястомна, у кожным выпадку, месцы й часе вымаўленае Тваімі слугамі, зьяўляецца ня толькі знакам, але й прычынаю жыцьця, радасьці й помачы. Ахіні нас крыламі сваёй дабрыні, барані нас сваім заступніцтвам, дай жыцьцё вечнае — бо ты нязводная надзея хрысьціянаў. <...>



Таму да Цябе ўцякае той, хто пакутуе, да Цябе бяжыць пакрыўджаны, усклікае, просячы помачы Тваёй, нешчасьлівы. <...> Твая ж апека перавышае розум.

Працяг на с.11 ⇨

### КАРОТКАЯ ІНФАРМАЦЫЯ ПРА АЎТАРАЎ ТЭКСТАЎ:

***Сьв. Рыгор Багаслоў (330-390)***

Адзін са сьвятых Айцоў Царквы. Спасярод трох Айцоў з Кападокіі (разам з Рыгорам з Нісы і Васілём Вялікім) быў самым вялікім багасловам і паэтам, таму і завецца Багаслоў. Пакінуў пасьля сябе шмат прыгожых казаньняў і вершаў. Як біскуп Канстанцінопаля адыграў значную ролю на II Усяленскім саборы ў 381 г. (у Канстанцінопалі), чым спрычыніўся да перамогі над гарэзіяй нестарыянаў і аднаўленьнем арыянства.

***Сьв. Ірынэй, біскуп Ліёну (паміж 130 і 140 гг. - каля 202 г.)***

Выдатны багаслоў II ст., які паходзіў з Усходу і быў вучнем сьв. Палікарпа са Сьмірны (вучня апостала Яна Багаслова). У 177 г. быў пакліканы на біскупа ў Ліёне. Напісаў адзін з першых сістэматычных выкладаў навукі і веры хрысьціянаў («Выклад навукі апосталаў»). Адданы і руплівы абаронца веры і царкоўнай еднасьці. Памёр як мучанік у часы перасьледаваньняў імператара Септымія Сэвэра.

***Сьв. Герман, патрыярх Канстанцінопальскі (634-734)***

Як патрыярх Канстанцінопальскі (другі па гонары пасьля папы Рымскага) адзначыўся цьвёрдай пазіцыяй у барацьбе з гарэзіяй монатэлітаў (што прызнавалі ў Хрысьце адну волю) і іконаборцаў. Сярод ягоных казаньняў адметнае месца займаюць казаньні, прысьвечаныя Найсьвяцейшай Багародзіцы.

***Сьв. Ян з Дамаску (675-749)***

Апошні вялікі багаслоў на Ўсходзе, якога залічваюць да Сьвятых Айцоў. Напачатку служыў эміру Дамаску і, у той жа час, абараняў іконы перад іконаборцамі. Пасьля цуду, што адбыўся перад іконай Багародзіцы (якая сёньня вядомая як Троеручыца), пайшоў у манастыр сьв. Савы каля Ерусаліму. Напісаў «Дакладны выклад праўдзівай веры». Яшчэ больш вядомы сваёй паэтычна-літургічнай творчасьцю: напісаў шмат гімнаў і канонаў, сярод якіх асабліва прыгожы чын пахаваньня (вялікай паніхіды).

**Вячаслаў СТЭЦКО**

# Дзякуйце за ўсё

*«...Дзякуйце заўсёды за ўсё Богу і Айцу, у імя Госпада нашага Ісуса Хрыста» (Эф 5, 20)*

Усе нашыя папярэднія разважаньні пра малітву падзякі ўвесь час паказваюць і вядуць нас да Хрыста. У гэтым няма нічога незвычайнага, бо ўсё Сьвятое Пісаньне — тэксты Старога й Новага Запавету — сканцэнтраваныя і накіраваныя на кульмінацыйны пункт гісторыі збаўленьня, якім зьяўляецца Ісус Хрыстос. У папярэдніх частках мы паказалі шматлікія вымярэньні старазапаветнага і новазапаветнага разуменьня падзякі. У апошняй жа частцы была падкрэсьленая сувязь паміж падзякаю і справаю збаўленьня, якую выканаў Хрыстос. Уласна ў Ісусе Хрысьце крок Бога у бок чалавека такі вялікі, што галоўнай выяваю падзякі чалавека павінна быць малітва ўдзячнасьці за збаўленьне і надзея на будучае жыцьцё разам са сваім Творцам. Такім чынам, можна сьцвярджаць, што ў хрысьціянскай перспектыве малітва падзякі атрымлівае поўную свайго значэньня толькі ў сьвятле падзеяў Хрыста — Яго ўцелаўленьня, жыцьця, сьмерці і ўваскрасеньня.

Падчас сёньняшніх нашых пошукаў адказу на пытаньне за што належыць дзякаваць, зьвернем каратка ўвагу яшчэ на два вымярэньні малітвы падзякі: эклезіялагічнае і сакраментальнае. З гэтай мэтаю зьвернемся зноў да навучаньня Каталіцкай Царквы, якая малітву падзякі выразна зьмяшчае ў эклезіяльны кантэкст: «Падзяка зьяўляецца характэрнаю рысаю малітвы Царквы, якая праз служэньне Еўхарыстыі аб'яўляе сябе і становіцца яшчэ больш сабою. Сапраўды, у справе збаўленьня Хрыстос вызваляе стварэньне ад граху і ад сьмерці, каб нанова пасьвяціць яго і вярнуць Айцу на славу Яго. Падзяка членаў Цела ўдзельнічае ў падзяцы іх Галавы» *(ККЦ, 2637)*.

Сьцьвярджэньне Катэхізму моцна закаранёнае ў новазапаветных тэкстах. Еўхарыстыя, як паказвае само слова, зьяўляецца падзякаю, якую складаюць Богу. У цэнтры служэньня Еўхарыстыі ў Царкве знаходзяцца хлеб і віно, якія праз словы Хрыста і закліканьне Сьвятога Духа становяцца Целам і Крывёю Хрыста. Тэма сувязі малітвы падзякі з Еўхарыстыяй ужо зьяўлялася ў нашых разважаньнях у першай частцы. Цяпер мы пакажам трохі іншы яе аспект: у Еўхарыстыі адбываецца спатканьне Бога й чалавека. Больш таго, Еўхарыстыя яднае нас з Хрыстом. Гэта адбываецца не інакш як у супольнасьці тых, што вераць у Ісуса Хрыста, у супольнасьці Царквы. Зьвернем увагу, а таксама затрымаемся трохі больш на знакамітым фрагменце Евангельля сьв. Лукі, які апісвае шлях вучняў разам з Ісусам да Эмаўса: «І так (вучні) падышлі да селішча, да якога ішлі, і Ён зрабіў выгляд, быццам хацеў ісьці далей. Але яны затрымалі Яго, кажучы: «Застанься з намі, бо ўжо вечарэе, і дзень сышоў». І ўвайшоў Ён у дом з імі. І сталася, калі ўзьлёг з імі за сталом, узяў хлеб, і благаславіў, і ламаў, і падаваў ім. І адкрыліся вочы іхнія, і пазналі Яго; але Ён зьнік з іх вачэй. І сказалі яны адзін аднаму: «Ці ж сэрцы нашыя не гарэлі ў нас, калі размаўляў з намі ў дарозе і адкрыў нам Пісаньне?»» *(Лк 24, 28-32)*. Пададзены намі тэкст сьв. Лукі, які быў разьмешчаны ў кантэксьце падарожжа вучняў Хрыста да Эмаўсу, дасканала паказвае сітуацыю, у якой апынуліся вучні — сітуацыя сумніву і апатыі, неразуменьня падзеяў, якія адбываліся вакол іх. Іх вера, усе мары й планы ў перспектыве ўкрыжаваньня Настаўніка станавіліся ілюзіяй: «А мы спадзяваліся, што Ён меў адкупіць Ізраіля» *(Лк 24, 21[А])*. Раптам зьяўляецца Нехта, хто ёсьць з імі, але яны Яго не заўважаюць: «А вочы іх былі зацемнены, так што не пазналі Яго» *(Лк 24, 16)*. Знаходжаньне з Уваскрослым Хрыстом было для іх толькі знаходжаньнем з незнаёмым чалавекам. Нават тлумачэньне Пісаньня, указаньне Майсея і прарокаў не наблізіла іх да распазнаньня ў незнаёмцы Ісуса. Гэта адбываецца да моманту «калі ўзьлёг з імі за сталом» *(Лк 24, 30[А])*, калі сказаў словы блаславеньня *(Лк 24, 30[Б])*, ламаў і раздаваў хлеб *(Лк 24, 30[В])*. Толькі падчас спажываньня хлеба вучні пазналі Хрыста. Толькі супольная трапеза адкрыла ім вочы.

> *“У Еўхарыстыі адбываецца спатканьне Бога й чалавека. Больш таго, Еўхарыстыя яднае нас з Хрыстом. Гэта адбываецца не інакш як у супольнасьці тых, што вераць у Ісуса Хрыста, у супольнасьці Царквы.”*

Фрагмент Евангельля ад Лукі мае выразную сакраментальную і эклезіялагічную афарбоўку. Ён паказвае месца, дзе можна пазнаць Хрыста. Больш таго, паказвае таксама месца, дзе адкрываецца Уваскрослы Госпад. Гэтым месцам зьяўляецца супольнасьць Царквы і Еўхарыстыя, якая там служыцца. Пераказаная апосталам Паўлам традыцыя дадае: «Я перадаў гэта вам, што Госпад Ісус у тую ноч, калі меў быць выдадзены, узяў хлеб, і, склаўшы падзяку, паламаў, і сказаў: «Гэта ёсьць Цела Маё, якое за вас [даецца]. Рабіце гэта ў Маю памяць!»» *(1 Кар 11, 23-24)*. Прыняцьце хлеба й віна, такім чынам, зьвязанае з падзякаю. З удзячнасьцю чалавек павінен прымаць усе дары, якія зьяўляюцца выявай Божай любові. Супольнасьць Царквы, у сваю чаргу, як месца служэньня Вячэры Гасподняй, дае чалавеку магчымасьць узносіць малітвы падзякі, падчас якіх з Ісусам і ў Ісусе дзякуем за ўсе дары.

У фрагменце ад сьв. Лукі можна знайсьці таксама сэнс сакраментальнага жыцьця ў Царкве. Гэта падчас ламаньня й спажываньня быў распазнаны Госпад гісторыі. Гэта азначае тое, што толькі ў таямніцы Еўхарыстыі мы можам у поўні сустрэцца з Уваскрослым і жывым Хрыстом. Прыняцьце тайны Еўхарыстыі дае магчымасьць кожнаму веруючаму хрысьціяніну паглыбіць свае адносіны з Ім. Гэта адбываецца ня толькі ў выпадку тайны Еўхарыстыі, але і ў іншых тайнах, якія служацца ў Царкве. Кожная з сямі тайнаў набліжае чалавека да Бога, дае яму сілы, каб у поўні рэалізаваць сваё хрысьціянскае пакліканьне.

Фрагмент Евангельля Лукі паказвае таксама патрэбу асабістай сустрэчы чалавека з Богам. Быць хрысьціянінам — гэта значыць нястомна шукаць сустрэчы са сваім Творцам і Збаўцам. Падобна, як два вучні, якія падарожнічалі ў Эмаўс у пошуках Госпада, знайшлі Яго ў Еўхарыстыі, так і мы, сучасныя людзі, павінны заўсёды імкнуцца да ўсталяваньня адносінаў з Ім, а тайна Еўхарыстыі дае нам магчымасьць зрабіць гэта ў поўні. Больш таго, можна сказаць, што без дзяленьня хлебам і віном — Целам і Крывёй Хрыста, без сакраментальнага жыцьця, пазнаць Госпада будзе цяжка.

Тэкст Евангельля, над якім мы сёньня разважалі, не адносіцца толькі да падзеяў двухтысячагадовай даўніны. Таксама і ў нашыя часы, як і ў нашым жыцьці мы сустракаемся часта з падобнай сітуацыяй: не распазнаем і сёньня жывога ды прысутнага ў гісторыі Ісуса Хрыста. Таму гэтак важна жыцьцё тайнаю Еўхарыстыі, якая яднае нас са Збаўцам, прыняцьце Якога зьяўляецца адначасова паглыбленьнем супольнасьці з Богам ды цудоўнай падзякаю за нашае жыцьцё, нашае збаўленьне і будучае вечнае жыцьцё з Хрыстом.

Падсумоўваючы ўсе нашыя разважаньні над біблійнай праблематыкай падзякі, трэба падкрэсьліць, што падзяка, як і малітва падзякі, шчыльна зьвязаныя з кантэкстам гісторыі збаўленьня. Біблія зьяўляецца перш за ўсё кнігай збаўленьня. Большасьць яе тэкстаў накіраваныя на вызваленьне і збаўленьне чалавека. Малітвы, якія ўзносілі мужы Божыя ў кнігах Старога й Новага Запавету, зьяўляюцца сьведчаньнем самага глыбокага прагненьня чалавека цешыцца шчасьлівым жыцьцём са сваім Богам і ў еднасьці з Ім. Малітва падзякі паказаная ў Сьвятым Пісаньні як малітва ўдзячнасьці за факт стварэньня сьвету й чалавека, за Бога, Які блізкі чалавеку, Які клапоціцца пра яго, апякуецца ім, ахоўвае, абдорвае рознымі дарамі. Але перш за ўсё, падзяка плыве за тое, што гэта Бог, Які збаўляе чалавека і дае надзею жыцьця вечнага. Яго любоў такая вялікая, што Ён пасылае Свайго Сына для збаўленьня сьвету. Дзякуючы Сыну Божаму, які стаўся чалавекам, мы можам пазнаваць і паглыбляць таямні-

*Заканчэньне, пачатак у №1 (40), № 2 (41), № 3 (42) - 2004.*

**«КАТЭДРАЛЬНЫ ПЛЯЦ»** — *гэта месца ў «Царкве», якое мы сьпецыяльна адводзім для вашых допісаў, каб вы маглі задаць пытаньні, выказаць свае погляды і меркаваньні на праблемы Царквы і веры ў нашым грамадзтве, падзяліліся роздумамі і разважаньнямі пасьля прачытаных матэрыялаў. Пішыце пра тое, што вас хвалюе, непакоіць.*



***Сардэчнае хрысьціянскае прывітаньне з Горадні.***

***Чытаючы Новы Запавет, я нідзе не знайшоў, каб была такая назва грэка-католікі. Ёсьць толькі назва евангельская вѐра (Плп 1, 27) і напісана, што адзін Гасподзь, адна вера, адно хрышчэньне (Эф 4, 5). У Евангельлі ад Яна напісана «каб усе былі адно». Таму вера адна і навошта столькі назваў веры?***

***З павагаю,***

**Паўла ГЕРАСІМЧЫК**, *г.Горадня*

# Адзін Гасподзь, адна вера, адно хрышчэньне

Сапраўды, назвы «католікі» няма ў Сьвятым Пісаньні. Слова гэтае грэцкага паходжаньня; «*katholikos*» тлумачыцца як паўсюдны, сусьветны, усяленскі або з царкоўна-славянскай — «саборны». Назва «каталіцкая Царква» зьяўляецца ўжо на пачатку II стагоддзя, яе выкарыстоўвае сьвяты Ігнат Антыяхійскі ў лісьце да жыхароў Сьмірны. З таго часу ўся супольнасьць хрысьціянаў, якая тады яшчэ мела адну веру, адзіны культ і адзіную арганізацыю пачала называцца «каталіцкая». Гэтая назва ўжывалася асабліва часта тады, калі зьяўляліся розныя гарэзіі. Як правіла, яны мелі мясцовы характар, і таму гэтым новым вучэньням «католікі» («паўсюдныя») супрацьпастаўлялі веру Царквы ва ўсім сьвеце. Такая вера, прынятая ад апосталаў, была адзінаю праўдзіваю, таму называлася таксама яшчэ й «праваслаўнаю». Канчаткова назва «каталіцкая» замацавалася ў практыцы Царквы пасьля II Усяленскага сабору ў Канстанцінопалі ў 381 годзе. Ад гэтага часу ўсе хрысьціяне вызнаюць, што вераць «у адзіную, сьвятую, паўсюдную (у грэцкім арыгінале — *katholikos*) і апостальскую Царкву». Праўда, пасьля 1054 году назва «каталіцкая» і «праваслаўная» сталі ўжывацца як назвы канкрэтных супольнасьцяў, але ў багаслужбовых тэкстах гэтыя словы захаваліся ў сваім першапачатковым значэньні.

Назва «грэка-католікі» зьявілася досыць позна — пасьля 1774 году ў Аўстра-Вянгерскай імперыі. Так назвалі католікаў, якія прытрымліваліся візантыйскага (грэцкага) абраду, каб адрозьніваць іх ад католікаў лацінскага абраду — рыма-католікаў. Да таго часу іх называлі «уніятамі» («зьяднанымі»), г. зн. праваслаўнымі, зьяднанымі з Каталіцкай Царквою. У канцы XVIII стагоддзя такая назва была ўжо не вельмі карэктнаю, бо нашчадкі ўніятаў ні з кім не зьядноўваліся, яны ўжо нарадзіліся ў каталіцкай веры. Назва «грэка-католікі» таксама не зьяўляецца вельмі ўдалаю, таму прапануюцца і часам ўжываюцца іншыя назвы («ўсходнія католікі», «візантыйскія католікі», «славяна-візантыйскія католікі», «кіеўскія католікі» і інш.; пра назву Грэка-Каталіцкай Царквы гл. у газеце «Царква» № 4 (23), 1999).

Радкі з пасланьня апостала Паўла да піліпянаў (Плп 1, 27), дзе ёсьць выраз «евангельская вера» і які Вы прыводзіце, у розных перакладах гучаць па-рознаму. У новым беларускім перакладзе айца У.Чарняўскага гэты выраз перакладзены як «вера Евангельля». І тут важна падкрэсьліць, што вера Каталіцкай Царквы зьяўляецца ў поўні евангельскай. Ад часоў сьвятых апосталаў Евангельле захоўваецца ў Царкве. Яна жыве Евангельлем, якое чытаецца на кожнай Літургіі. Менавіта Каталіцкая Царква трымаецца прынцыпу «адзін Госпад, адна вера, адзін хрост», бо хрысьціяне-католікі ва ўсім сьвеце, ня гледзячы на абрадавую, нацыянальную, культурную, расавую прыналежнасьць, захоўваюць адзінства веры. Акрамя таго, згодна з навучаньнем II Ватыканскага сабору, братамі і сёстрамі для нас зьяўляюцца ўсе ахрышчаныя, незалежна ад таго, да якой Царквы ці царкоўнай супольнасьці яны належаць. Каталіцкая Царква са старажытных часоў імкнецца прытрымлівацца практыкі не перахрышчваць хрысьціянаў, якія прынялі хрост у іншых Цэрквах і хочуць далучыцца да яе. Ці ж не найлепшая гэта выява прынцыпу «адзін хрост»?

Вядома ж, грэка-католікі таксама адчуваюць боль царкоўных падзелаў і імкнуцца будаваць еднасьць хрысьціянаў. Але мець адну веру — гэта ня значыць аднолькава называцца, быць абсалютна аднолькавымі. Сэнс еднасьці ў тым, каб трымацца веры Евангельля, а разам з тым захоўваць сваю культурную тоеснасьць і Традыцыю, што пад дзеяньнем Духа Сьвятога стварылі многія пакаленьні нашых продкаў, якія жылі з вераю ў Хрыста.

*Магістар* **Андрэй КРОТ**

цу Божай любові і Боскага жыцьця. Бо ўсё жыцьцё Ісуса Хрыста, Яго публічная дзейнасьць, Яго навучаньне і ацаленьні, і, нарэшце, Яго мука, сьмерць і ўваскрасеньне зьяўляюцца выявай Божай любові і прагненьня збаўленьня і адкупленьня чалавека, дараваньня яму вечнасьці і супольнасьці з Богам. Сёньня мы знаходзім Хрыста і Бога ў тайне Еўхарыстыі, якая адбываецца ў Царкве. У гэтай тайне канцэнтруецца ўсё хрысьціянскае жыцьцё чалавечай асобы. Еўхарыстыя зьяўляецца нічым іншым, як малітвай падзякі, падчас якой мы павінны дзякаваць Богу за такі каштоўны дар сустрэчы і зьяднаньня з Ім. Калі ўзносім малітву падзякі, як, зрэшты, і ў нашых штодзённых клопатах і жыцьці, мы павінны памятаць пра ўсе збавенныя для чалавека дары, якія паходзяць з Божай любові, а таксама нястомна ўваходзіць у стан падзякі і адначасова імкнуцца да эсхаталагічнай будучыні.

---

Дзень добры, шаноўны калектыў газеты «Царква»!

Вітаючы вас з мястэчка Парычы, што на Гомельшчыне. Вялікі дзякуй за дасланую на Парычы ў гэтым годзе літаратуру. Прысылайце і надалей. Чакаю таксама і царкоўны каляндар на 2005 год. Дасылаю вам ахвяраваньне 50 тыс. рублёў.

...Шлях вернікаў БГКЦ да еднасьці хрысьціянаў і да адраджэньня Царквы лічу даспадобы Госпаду нашаму. Хрысьціянам трэба весьці экуменічны дыялог, каб яднацца ў Хрысьце. Прычым гэтае яднаньне павінна адбывацца пры захаваньні розных малітваў, абрадаў, моваў — усіх «колераў вясёлкі». Бо толькі разнастайная прыгажосьць весяліць і радуе кожную душу, спрыяе атрыманьню Божай ласкі. Таксама беларусам трэба маліцца на роднай мове і прымаць актыўны ўдзел у грамадзка-палітычным жыцьці краіны, каб мы былі годнымі звацца сынамі і дачкамі Божымі сярод роўных і розных народаў...

З павагай,

**Генадзь БЯДА**

*м. Парычы Сьветлагорскага р-ну*

**Ад Рэдакцыі:** *Шаноўны спадар Генадзь! Вялікі дзякуй Вам за лісты, а таксама за адданую працу па распаўсюджваньні «Царквы», па зборы матэрыялаў па гісторыі Уніяцкай Царквы і за ахвяраваньне на нашу газету. Цешымся, што маем такіх чытачоў, сапраўдных апосталаў нашага часу. Молімся за ўсіх, хто чытае і распаўсюджвае нашу газету. Падзяляем Вашую надзею на тое, што надыдзе спрыяльны час для адраджэньня Уніі і ў Вашых мясьцінах. Бог у дапамогу!*

# Разважаньні на Ружанец

⇨ *Заканчэньне са с.8-9*

Спагнянь з Твайго сьвятога прыбытку на гэты вянок, што прыносіць [Табе] адданы Табе люд, які Цябе лёсам атрымаў сабе за Спадарыню, Апякунку й Каралеву. Сабраўся ён для адданьня Табе з сэрца хвалы — сваім поглядам звольні яго ад усялякага зла і няшчасьця, захавай ад усялякай хваробы, усялякай заганы, усялякай шкоды, напоўні ўсялякай радасьцю, усялякім здароўем, усялякай ласкай, і ў прыйсьці Сына Твайго, Міласэрнага Бога нашага, калі ўсе станем перад Суддзёй.

/СЬВ. ГЕРМАН З КАНСТАНЦІНОПАЛЯ /

***III. Малітва — Кандак сьвята Пакрыва (Тон 3)***

*Сёньня Дзева з хорамі сьвятых стаіць нябачна ў царкве і моліць Бога за нас; анёлы і першасьвятары пакланяюцца Ёй, і апосталы з прарокамі радуюцца, бо за нас моліць Багародзіца спрадвечнага Бога.*

***IV. Кароткае разважаньне***

Узгадваючы пакроў і праслаўленьне ў небе Найсьвятой Багародзіцы, прынясем Ёй як падзяку, нашыя малітвы і радасныя ўсхваленьні. Бо Яна па-матчынаму клапоціцца пра нас, захоўвае і аберагае, заўсёды выслухоўвае ў патрэбах і хадайнічае за нас перад Богам. Яна моліцца за нас, як за дзяцей Сваіх і Сваім прыкладам вучыць нас нястомнай малітве і пакорліваму прыбяганьню да Бога ва ўсіх патрэбах. Яна вучыць нас проста славіць Бога і дзякаваць за ўсё, што Ён нам дае. Яна пакрывае нас Сваім покрывам, а мы ў сваю чаргу, радасна ўсклікнем Ёй: «Радуйся, Найпачэсная Уладарка нашая і Найрадасная Заступніца!»

# У горы і ў радасьці

*Парады сямейнага псіхатэрапеўта д-ра Барбары СМАЛІНСКАЙ **

**• ЯК ПАВІННЫ ВЫГЛЯДАЦЬ АДНОСІНЫ З БАЦЬКАМІ І ЦЕСЬЦЯМІ, КАБ ДАПАМАГАЛІ СУЖОНКАМ РАСЬЦІ?**

Мы закранаем тут вельмі важную рэч. Пачнем з Бібліі: «Таму пакіне чалавек бацьку свайго і маці сваю і прылепіцца да жонкі сваёй; і будуць адна плоць» *(Быц 2, 24)*. У гэтым фрагменце ёсьць нешта вельмі праўдзівае таксама й псіхалагічна, а ня толькі духова. Трэба спачатку пакінуць свой бацькоўскі дом, сваіх бацькоў, каб увайсьці ў сужэнства. Гаворка тут ня толькі пра фізічнае пакіданьне. У нашых умовах гэта ўсё яшчэ не заўсёды магчыма. Я маю на ўвазе псіхалагічнае пакіданьне, «пераразаньне пупавіны», якая лучыць дзіця з бацькамі. Чым больш маладыя мужчына й маладая жанчына аддзеленыя ад бацькоў, тым большы яны маюць шанец, што іх саюз будзе ўдалы. Яны могуць тады будаваць адносіны ўдвох, а не ўчацьвярох, як часта здараецца, альбо ўшасьцярох. Бацькі могуць дапамагаць маладым, але таксама і перашкаджаць. Адносіны дзяцей з бацькамі часта бываюць вельмі складаныя. Многія бацькі аслабляюць сужэнскі саюз дзяцей, затрымліваючы іх пры сабе. Такая небясьпека сапраўды вельмі частая.

**• НЕ ЗАЎСЁДЫ ТОЛЬКІ БАЦЬКІ ВІНАВАТЫЯ. ЗДАРАЕЦЦА, ШТО МАЛАДЫЯ ПАДЧАС КАНФЛІКТУ БЯГУЦЬ ДА МАМЫ ПА ПАРАДУ АЛЬБО ПА ДАПАМОГУ І ПРАБЛЕМА РАЗРАСТАЕЦЦА. МОЖА ТРЭБА ШУКАЦЬ РАШЭНЬНЕ БЕЗ ПАСЬВЯЧЭНЬНЯ ВА ЎСЁ БАЦЬКОЎ?**

Я думаю, што ня варта тут увогуле гаварыць пра віну, а хутчэй пра прычыны. Найлепей, калі бацькі займаюць такую пазіцыю: мы адкрытыя на тое, каб вам дапамагчы, але не напрошваемся з гэтаю дапамогаю і захоўваем адпаведную дыстанцыю. Добра, калі дзеці ўсьведамляюць, што бацькі могуць быць для іх падтрымкаю. Аднак бацькі не павінны напрошвацца са сваімі парадамі, нават калі ведаюць лепшае рашэньне. Сёньня шмат параў скардзіцца на гэтую праблему. Найчасьцей гаворка ідзе пра маці. Уласна яны неаднаразова выказваюць вялікую недалікатнасьць. Усе крытычныя заўвагі наконт выхаваньня дзяцей, якія яны адрасуюць сваім нявесткам, недапушчальныя і прыносяць шмат шкоды маладым сем'ям. Тое ж адносна мужа дачкі, які зьяўляецца маладым членам нашай сям'і, але гэта ня значыць, што мы мусім яго выхоўваць. Яго бацькі ўжо гэта зрабілі. Нават, калі лічым, што яны не зрабілі гэта як найлепей, мы не павінны іх выпраўляць. Найважнейшае — гэта захаваньне адпаведнай дыстанцыі і неўмяшальніцтва ў справы маладых. З другога боку, сужонкі павінны задумацца, ці зьяўляюцца бацькі найлепшымі суддзямі ў іх спрэчках. Звычайна яны не зьяўляюцца аб'ектыўнымі. Цяжка ім ня стаць на бок свайго дзіцяці. Часта маладая жонка альбо малады муж пасьвячаюць бацькоў у сужэнскія праблемы, а потым адбываецца так, што пара даўно ўжо вырашыла сваю праблему, а бацькі ніяк ня могуць гэта забыць. У іх уяўленьні нехта чужы пакрыўдзіў іх дзіця і, нягледзячы на тое, што маладыя даўно ўжо сабе гэта прабачылі, бацькам цяжка пра гэта ня думаць. Калі часам патрабуем парады, то лепш зьвярнуцца да сяброў, якія маюць большы сямейны стаж, альбо ў больш сур'ёзных справах — да тэрапеўта ці ў кансультацыю для сужонкаў, а не да сваіх бацькоў.



**• ШТО ЗРАБІЦЬ, КАБ СУЖЭНСТВА З ВЯЛІКІМ СТАЖАМ ТАКСАМА АДЧУВАЛА СЯБЕ ШЧАСЬЛІВЫМ?**

Сужэнства з вялікім стажам сапраўды можа быць шчасьлівым. Гісторыя саюзу — гэта гісторыя крызісаў і новай гармоніі, якая з іх нараджаецца. Гэта супольны працэс, супольны шлях, на якім можам станавіцца ўсё больш дасьпелымі псіхічна. Жыцьцё ў сужэнстве можа быць крыніцаю вялікай радасьці, але мусіць праходзіць таксама й праз цяжкі досьвед. Я з вялікай пашанаю стаўлюся да параў, якія не стамляюцца ў працы над сваім саюзам. Ніколі ня позна прыкладаць намаганьні, каб было лепей. Неаднаразова момант адыходу дзяцей з дому зьяўляецца момантам крызісу. Гэта называецца этапам пустога гнязда. Часамі адыход дзяцей супадае з выхадам на пенсію ці з праблемамі са здароўем і ўсё гэта стварае сур'ёзныя праблемы. Ня добра, калі сужонкі становяцца больш бацькамі, чым сужэнствам і галоўным чынам займаюцца працаю й дзецьмі. Тэмаю іх размоваў зьяўляюцца праблемы дзяцей, матэрыяльныя альбо арганізацыйныя справы. Яны перастаюць размаўляць пра сябе, пра свае пачуцьці, прагненьні і патрэбы. Уявім сабе сітуацыю, што дзеці адыходзяць і бацькі застаюцца раптам самі. Паўстае пустка, якая душыць. Аказваецца, што ня маюць пра што размаўляць, што калі яны ўжо ня маюць балагану ў пакоі з нязробленымі ўрокамі ды нараканьня на малых, не застаецца нічога, што іх яднае. Гэта сапраўды трагічна.

Варта не занядбаць узаемаадносінаў да такой ступені, каб трэба было іх адбудоўваць на нова. Сужэнства павінна няспынна дбаць пра тое, каб сапраўды быць сужэнствам. У сям'і павінны існаваць выразныя межы і падсістэмы: бацькі й дзеці. Мусіць быць дакладна захавана тое, што бацькі зьяўляюцца бацькамі для сваіх дзяцей, але перад усім яны ёсьць сужэнскай парай. Бо жывуць ня толькі для таго, каб выхоўваць дзяцей. Яны важныя, але не адно яны. Мэта ёсьць тое, каб сужонкі кахалі адно аднаго і штораз лепш разумелі й былі блізкія, нават калі маюць пяцёра дзяцей. Тады няма такой небясьпекі, што пасьля адыходу дзяцей паўстане страшная пустка ў іх доме і жах, што з сабою рабіць. Занядбаньне свайго сужэнства можа праз нейкі час праявіцца ў нярвовым трыманьні дзяцей. Бацькі ўмешваюцца і цяжка ім прыняць набыцьцё самастойнасьці сваім дзіцём, менавіта з прычыны страху пусткі. Яны бароняцца, каб не застацца самому з кімсьці, хто стаўся для іх чужым чалавекам.

Можна выкарыстаць ахвярнасьць цесьцяў або бацькоў, каб яны часам заставаліся з унукамі на вечар, а калі тыя падрастуць — нават на некалькі дзён, каб бацькі маглі пабыць толькі з сабою. Сужонкі таксама павінны мець час толькі для сябе. Вельмі важна дбаць пра гэта. Кожная пара павінна знайсьці найлепшы спосаб, каб паглыбляць свае адносіны ў сужэнстве. Для адных гэта можа быць вячэра пры сьвечках, для іншых шпацыр ці паездка.

**• АСАБЛІВАЙ ВЫЯВАЙ ЕДНАСЬЦІ Ў СУЖЭНСТВЕ ЗЬЯЎЛЯЕЦЦА СЭКСУАЛЬНАЕ ЖЫЦЬЦЁ СУЖОНКАЎ. ЯКІЯ ЦЯЖКАСЬЦІ Ў ГЭТАЙ ГАЛІНЕ МОГУЦЬ НАС СУСТРЭЦЬ?**

Гэта надзвычай далікатная сфера. Яна яскрава адлюстроўвае тое, што адбываецца ў іншых сферах саюзу, бо інтымнасьць зьвязаная з усімі сферамі досьведу. Здараецца, напрыклад, што пара не жыве з сабою год, і зусім пра гэта не размаўляюць, проста так адбываецца. Парознаму з гэтым разьбіраюцца, але не размаўляюць пра гэта. Трэба вучыцца гаварыць пра гэтыя рэчы. Тым больш, што яны надзвычай далікатныя і тут лёгка раніць адно аднаго. Але ня можна пра гэта не размаўляць. Варта гаварыць пра свае патрэбы і чаканьні ў гэтай сферы. Не палохацца і не пазьбягаць размоваў, калі ў гэтай сферы пачынае адбывацца нешта цяжкае. Калі раптам адзін з сужонкаў перастае мець ахвоту да сужыцьця ці пазьбягае яго, ня можна гэта ігнараваць. Мы мусім таксама мець на ўвазе, што існуюць пэўныя натуральныя перыяды зьмяншэньня зацікаўленасьці сэксам, напрыклад, пасьля нараджэньня дзіцяці. Мужчынам цяжка гэта зразумець і ў маладых сем'ях неаднаразова зьяўляюцца на гэтай глебе праблемы. Малады тата не ўсьведамляе, што жонка пасьля родаў навогул ня мае ахвоты займацца сэксам. Тады ён адчувае сябе пакінутым альбо некаханым. Яму цяжка таксама спалучыць факт, што ў першы год пасьля нараджэньня дзіцяці жонка часта ўстае ноччу, мала сьпіць і адчувае сябе стомленаю. Тады звычайна яна мае менш ахвоты зьблізіцца. Добра было б, каб малады тата ведаў і разумеў, што жонка зусім не перастае яго кахаць. Калі ён праз ноч будзе ўставаць да дзіцяці, тады й жонка будзе мець большую ахвоту да інтымнага жыцьця.

* *Пачатак у № 2 (41), № 3 (42) - 2004.*

*Прапануем чытачам «Царквы» адзін з разьдзелаў працы Генрыка Масьціцкага «Уніяты» у перакладзе Вітаўта Парфененкі. Яна распавядае пра гвалтоўнае скасаваньне расейскім царскім урадам Уніі ў 1839 годзе, пра перасьлед беларускіх уніятаў і іх мучаніцтва. Мясцовасьць Дудаковічы на Магілёўшчыне, пра якую ідзе гаворка ва ўрыўку, які тут зьмяшчаем, належала да месцаў, якія ці не найбольш пацярпелі ў тыя смутныя часы, а простыя вясковыя людзі, што баранілі сваю веру, як лічыць аўтар, годныя стаць поруч з першымі мучанікамі хрысьціянства. Падрабязнасьці гэтай справы былі паказаны таксама ў выдадзеных па-польску працах Юльяна Барташэвіча «Szkic dziejów Kościoła ruskiego w Polsce» (Кракаў, 1880), кс. Эдварда Лікоўскага «Dzieje Kościoła unickiego na Litwie i Rusi w XVIII i XIX w.» (Познань, 1880); Генрыка Масьціцкага «Dzieje porozbiorowe Litwy i Rusi» (Вільня, 1913).*

**Генрык МАСЬЦІЦКІ**

# «Уніяты»

## (УСПАМІНЫ З ГІСТОРЫІ МУЧАНІЦТВА)

## • *ДУДАКОВІЧЫ* •

Пасьля скасаваньня ўказам 1839 году уніі ў расейскай дзяржаве, а з ёй і закону Айцоў Базыльянаў, аграмадная колькасьць духавенства ды манахаў змушаная была да прыняцьця схізмы. Тых духоўных, што ўпарціліся, адлучалі ад сьвятарства й раскідвалі па розных манастырох нашага Краю. Урадам было вырашана ўпарадкаваць сьпісы люду, які належыў быў да ўніятаў, а таксама тых рыма-каталікоў, продкі якіх у 1798 годзе былі яшчэ грэка-каталікамі. Прынята было лічыць іх усіх за праваслаўных; загад тычыўся таксама й тых, хто мог быць рыма-каталіком, каб і тыя пануючае вызнаньне прынялі. Сьпісы тыя складала схізматычнае *(праваслаўнае — Рэд.)* духавенства, хціва перабольшваючы лічбы парафіянаў. Падтрыманыя мясцовымі ўладамі, з дапамогай паліцыі, бяз удзелу ня толькі каталіцкіх пробашчаў, але нават хаця б аднаго дэпутата з боку рыма-каталіцкага духавенства, злоўжываньні мелі страшныя памеры па ўсім Краі. Ня толькі ўніятаў гвалтам рабілі схізматыкамі *(праваслаўнымі — Рэд.)*, але й мноства каталікоў рымскага абраду, запісаўшы самачынна ў сьпіс вызнаўцаў урадавай Царквы, змусілі вырачыся сваёй веры. Справаў пра падобныя гвалты, што тычыліся персанальна асобаў, было безьліч. Бывала, здаралася, што цэлымі парафіямі пераводзілі рыма-каталікоў у праваслаўе. Ксёндз Чапулевіч, плябан мёрскага касьцёлу (у Дзісенскім павеце Менскае губерні), ва ўрадавым рапарце да менскага рыма-каталіцкага кансістара, 25 ліпеня 1841 году за № 1833, скардзіўся, што айцец Стукаліч, дзісенскі думны (дэкан), у прысутнасьці ўрадніка канцылярыі генерал-губернатара, нейкага Мельнікава, і мясцовай паліцыі, як прыбыў да мястэчка Перабродздзя, што да яго парафіі належыць, прывёз з сабою трох сваіх папоў, то сабраў найперш праз паліцыю ўвесь навакольны люд, сілай да царквы загнаў, не пытаючы нават, хто якога вызнаньня быў, спраўджваючы адно складзеныя сьпісы, гвалтам спавядаць схізму загадаў. Урaднікі з дзясятнікамі сталі ў дзьвярох царквы, і пагражаючы кіямі ды ўвязьненьнямі, абражаючы ды лаючы, змушалі да прыняцьця прычасьця; упартым накладалі кайданы на ногі, кідалі ў вязьніцу іх ды мучылі голадам на працягу колькіх дзён. Многія гвалту скарыліся; але мноства сем'яў хавалася па лясох. Рапарт той, што быў пасланы да Пецярбургу, меў толькі адзін вынік — думны Стукаліч дастаў крыж. Падобныя гвалты рабіліся ў Пагосьце ды Хвашчоўцы — маёнтках, што некалі належылі езуітам у Магілёўскай губерні, у маёнтках Корсака ў Дрысенскім павеце Віцебскай губерні. Зрэшты — паўсюль, дзе толькі схізматычнае духавенства здолела б знайсьці якую-кольвечы зачэпку альбо проста захацела.

Дудаковічы ж належыла да месцаў, якое мо найбольш пацярпела, і гэта спрычынілася да таго, што паміж ціхага люду мелі асобаў найвышэйшай цноты, годных стаць уровень з першымі мучанікамі хрысьціянства.

Дудаковічы як маёнтак, належыла раней да айцоў Дамініканаў, у 1841 годзе стала ўласнасьцю ўраду, як усе маёнткі, што належылі да кляштараў. Месьціліся яны ў парафіі тае ж назвы ў Беларусі, у Капыскім павеце сёньняшняй Магілёўшчыны. Маёнтак складаўся з пяці суседніх вёсак: Дудаковічаў, Вялікага Пасарава, Малога Пасарава, Арэхаўкі ды Зубава. Людзі, як паўсюль у нас, дзе па блізу былі кляштары, больш асьвечаны ў веры, чуліся ўсе каталікамі, ці да аднаго, ці да другога абраду належылі; да 1798 году, верагодна, пэўная частка парафіянаў перайшла ў рымскі абрад, а як уніяцкіх парахаў заступілі схізматычныя папы, то гэты працэс яшчэ больш пашырыўся сярод пабожных вернікаў каталіцкага вызнаньня. Праз год, тамтэйшыя валасныя скончылі будову сьціплай, але па большай частцы іхнім коштам узьведзенай, цэркаўкі. Схізматычнае духавенства надумала накласьці сваю руку і на гэтую сьвятыню. Яно палічыла, што калі насельнікі належаць воласьці, а значыць ураду, адсюль вынікае, што яны бясспрэчна маюць правы на яе, ды склалі сьпісы ўсіх былых уніятаў. Вестка пра гвалтоўнае навяртаньне абляцела ўсе ваколіцы, бо зьехалася ў вёску нязвыклая колькасьць паліцыйных драбаў, дзясяцкіх, сотнікаў, з гэтак званымі ключвойтамі ды асэсарамі на чале; зьявіўся нават праваслаўны поп. Зэгнаныя людзі, з большай, чым было калісь рупнасьцю, зьбегліся да царквы, каб чэрпаць з яе патрэбную ім духовую моц. Набліжалася сьвята Ўваскрасеньня Гасподняга, што ў 1841 годзе прыпадала на сакавік. У Вербную нядзелю сабралася было мноства людзей ў царкву і, пасьля споведзі перад айцом Войдакам, трымаючы ў руках асьвячаныя вербы, чакала на Найсьвяцейшы Сакрамант. Жаль і абурэньне былі агульныя, калі парах, не раздаўшы яго тым, што чакалі пры кратках ад алтара, пайшоў быў.— «А камунію сьвятую калі нам удзеліш?— запыталі.— Выбачце, дзеткі,— адказаў нягодны парах,— не дастанеце яе. Урад мне забараніў». Абурэньне раптам апанавала людзьмі. «Як гэта,— пачалі крычаць,— то што, маем быць схізматыкамі? Юда! Зыйдзі ад нас!» «Вадаку, лайдаку,— адазваліся галасы,— які ж з цябе пастыр, які айцец!» Некаторыя кінуліся да алтара забіраць свае ахвяры; адныя — ліхтары, іншыя — васковыя сьвечкі. Крычалі, што да касьцёлу рыма-каталіцкага аднясуць, калі той хоча аддаць іх у схізму. Шум падняўся ў царкве. Туды кінулася паліцыя ды пачала тузаць адтуль людзей. Асэсар меў каля пяцідзесяці драбаў. Людзі ў адказ ударылі ў званы; зьбеглася на іх адгалосак шмат сялянаў з вёскі, з цапамі, віламі; паліцыя, пабітая, мусіла саступіць. Выскачыў асэсар, а за ім поп, які быў непадалёк, бо чакаў на ўдалы для сябе вынік; усе зараз жа выехалі з вёскі да Магілёва, на данос губернатару, што дудаковіцкія мужыкі ўзбунтаваліся, схізмы ня хочуць прымаць.

*Працяг будзе*

**• У ЯКІ МОМАНТ СЯМЕЙНАГА КРЫЗІСУ ТРЭБА ШУКАЦЬ ДАПАМОГІ ЗВОНКУ?**

Заўсёды варта шукаць дапамогі, калі нават адной асобе ў сям'і здаецца, што цяжка і нічога не мяняецца. Трэба таксама шукаць дапамогі, калі зьяўляюцца спакусы шукаць іншых адносінаў. Гэта на самой справе цяпер частыя сітуацыі. Здрада неаднаразова становіцца самым простым спосабам вырашэньня сямейных цяжкасьцяў. Людзі шукаюць дапамогі толькі тады, калі ўжо пачаў існаваць трохкутнік. Цяжка тады выпутацца з гэтага і нанова прывесьці ўсё ў парадак. Таму лепш зараганяць раней. У працы з сем'ямі я стараюся падкрэсьліваць тое, што адказнасьць за здраду нясе заўсёды тая асоба, якая здрадзіла, але прычыны здрады заўсёды па двух баках.

**• ЯК ПАДНЯЦЦА ПАСЬЛЯ ТАКОГА ВЫПРАБАВАНЬНЯ?**

Гэта нялёгка і залежыць ад таго, што робіцца потым. Частка параў вырашае гэта становіча. Асоба, якая здрадзіла, расстаецца з трэцяю асобаю і разам з сужонкам спрабуе ратаваць сям'ю. Тады здрада становіцца моцным "ударам" для абодвух бакоў. Яны бачаць, што дрэнна паміж імі і як шмат рэчаў, якімі яны мусяць заняцца. Пачынаюць размаўляць, высьвятляць, пачынаюць сябе слухаць. Мусяць прайсьці праз этап, зьвязаны з прабачэньнем і вяртаньнем даверу, з адбудоваю парaненага пачуцьця жаноцкасьці ці мужчынскасьці. Часам, на жаль, адбываецца інакш: асоба, якая здрадзіла, адыходзіць. Тады мусіць надысьці цяжкі працэс пагаджэньня са стратаю.

# Помнік сьвятару-беларусу

(120-ыя ўгодкі з дня нараджэньня а. Баляслава Пачопкі)

***6 лістапада ў Целяханах (Івацэвіцкі р-н), на каталіцкіх могілках, адбылося асьвячэньне помніка беларускаму грэка-каталіцкаму сьвятару а. Баляславу Пачопку. Месца пахаваньня выдатнага беларускага сьвятара цудам удалося адшукаць на амаль цалкам зьнішчаных могілках некалькі гадоў таму, дзякуючы былым парафіянам, некаторыя з якіх жывуць цяпер у Крыму. Аўтар помніку з дрэва, на якім выразаны ўваскрослы Госпад,— мастак з Баранавічаў Мікола Колас.***

Абрад асьвячэньня і паніхіду ў 120-ыя ўгодкі з дня нараджэньня айца Б.Пачопкі зьдзейсьніў Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі архімандрыт Сяргей (Гаек) разам з грэка-каталіцкімі сьвятарамі з Берасьця, Полацку, Менску, Магілёва, Баранавічаў, Віцебску. На ўрачыстасьць сабраліся больш за сто чалавек: грэка-католікі (вернікі ды семінарысты) з розных куткоў Беларусі, жыхары Целяханаў разам з рыма-каталіцкім сьвятаром, актывісты грамадзкіх арганізацыяў. Сваю пашану памяці выдатнага беларускага сьвятара і грамадзкага дзеяча айца Б.Пачопкі засьведчылі таксама й прадстаўнікі мясцовых уладаў, якія адгукнуліся на запрашэньне і прысутнічалі на ўсіх урачыстасьцях.



• *Помнік на магіле а. Баляслава Пачопкі ў Целяханах*

Пасьля асьвячэньня помніка ў Целяханах большасьць удзельнікаў урачыстасьцяў (на 14 машынах і бусіку) накіравалася ў Бабровічы, дзе айцец Пачопка быў душпастырам з 1926 па 1940 год. На вясковых могілках, ля устаноўленага івацэвіцкімі грэка-католікамі памятнага крыжа — на месцы, дзе пахаваны жыхары спаленай фашыстамі вёскі, была адслужана паніхіда. У самой вёсцы, ля крыжа, на месцы, дзе была уніяцкая царква (збудаваная рукамі айца Пачопкі на сродкі мецэнаткі беларускага адраджэнскага і уніяцкага руху Магдалены Радзівіл ды на ўласныя зьберажэньні) адбыўся кароткі малебен, у якім бралі ўдзел таксама і бабравічане. Напрыканцы ў памяць пра а. Баляслава і ўсіх ахвяраў вайны быў адсьпяваны беларускі рэлігійны гімн «Магутны Божа».

**Баляслаў ПАЧОПКА** (1884-1940) — выдатны беларускі каталіцкі сьвятар візантыйскага абраду, публіцыст, выдавец, паэт, педагог, аўтар шэрагу твораў гісторыка-рэлігійнай тэматыкі. Паходзіць з беларускай Віленшчыны з засьценку Ўляны каля Рукойняў, што за 20 км ад Вільні. У касьцёле ў Рукойнях быў ахрышчаны адзін з пачынальнікаў беларускай літаратуры Францішак Багушэвіч, творы якога, як і творы Адама Міцкевіча і Уладзіслава Сыракомлі (ягоны маёнтак Барэйкаўшчына знаходзіўся таксама недалёка) былі вельмі папулярныя і добра вядомыя сярод мясцовых сялянаў. У часы дзяцінства Б.Пачопкі касьцёл належыў праваслаўнай Царкве, хоць у Рукойнях практычна не было праваслаўных, і таму хрост Баляслава Пачопкі адбыўся ў касьцёле ў Лаварышках. Менавіта там Баляслаў Пачопка атрымліваў сваё хрысьціянскае ўзгадаваньне. Вялікую ролю ў яго жыцьці адыграў тагачасны пробашч касьцёлу (падобна, беларус, імя якога яшчэ належыць высьвятліць гісторыкам і краязнаўцам), які дапамог Баляславу Пачопку атрымаць адукацыю.

Баляслаў Пачопка, які адвучыўся два гады ў Віленскай каталіцкай семінарыі, але з прычыны праблемы са здароўем мусіў яе пакінуць, быў рэдактарам ПЕРШАЙ беларускай каталіцкай газеты «Biełarus» (выдавалася ў 1913-1915 гг. у Вільні). Трэба адзначыць, што Б.Пачопка быў сталым аўтарам адраджэнскай газеты «Наша Ніва» амаль з часоў яе заснаваньня. У гэты перыяд ён блізка пазнаёміўся і працаваў як грамадзкі дзеяч поруч з выдатнымі беларускімі дзеячамі — братамі Іванам і Антонам Луцкевічамі, паэткай Алаізай Пашкевіч-Цёткай, якія марылі пра адраджэньне Уніі, пісьменьнікам Ядвігіным Ш. (А.Лявіцкім), з беларускімі каталіцкімі сьвятарамі-творцамі Казімірам Сваяком, Ільдэфонсам Бобічам, Аляксандрам Астрамовічам ды інш.



• *6.11.2004. Асьвячэньне помніка а. Баляславу Пачопку.*

**Памяці а. Баляслава ПАЧОПКІ**

*Аддаляюся ад зямлі,*
*Забываю часоў перасьлед,*
*І бацькоўскія абразы*
*Сіратліва глядзяць усьлед.*

*На Радзіме маёй мяжы*
*Сьмерць пакінула, а жыцьцё —*
*Зноў вяртаецца туды,*
*Дзе баліць яшчэ сэрца маё.*

*Не стрымаюць цяжкія путы*
*У нябёсы птушыны ўзмах.*
*Верце — праўда вышэй за пакуты,*
*Пераможа ў душах страх.*

*...І кароткі зімовы цень*
*Стане сонечным промнем ў вясну.*
*Дачакайцеся, будзе дзень —*
*Я з дажджом праліўным прыйду...*

**Зьміцер ПАТАЛЯТАЎ**
*г.Берасьце*

У часы І Сусьветнай вайны ён працаваў у Камітэце дапамогі пацярпелым ад вайны, спрычыніўся да разьвіцьця беларускага школьніцтва і стаў стваральнікам, кіраўніком і выкладчыкам ПЕРШАЙ беларускай настаўніцкай семінарыі ў м.Сьвіслач на Гарадзеншчыне (дзейнічала ў 1915-1918 гг.). Б.Пачопка — аўтар адной з першых граматык беларускай мовы, якая была надрукавана на беларускай лацініцы (1918), па якой вучыліся многія вучні. У гэты перыяд Пачопка пазнаёміўся і вёў перапіску з вядомым нямецкім славістам Рудольфам Абіхтам з Уроцлава.



• *6.11.2004. Паніхіда на месцы пахаваньня бабровіцкіх уніятаў.*

У 1921 годзе, дзякуючы парадзе ўкраінскага манаха-рэдэмптарыста а. Мікалая Чарнецкага (пазьней — біскупа і Апостальскага візітатара для католікаў усходняга абраду на тэрыторыі Валыні, Падляшша і Палесься, а цяпер — благаслаўлёнага Папам Рымскім Янам Паўлам II сьвятамучаніка, які прайшоў праз катаваньні і савецкія канцлагеры) Баляслаў Пачопка зьвярнуўся ў Ватыкан з просьбай дазволіць яму прыняць усходні абрад (падобна, што продкі Б.Пачопкі былі уніяты). Такі дазвол ён хутка атрымаў. Мара пра сьвятарства не пакідала Баляслава Пачопку, хоць да гэтага часу ён ужо быў жанаты і меў дзяцей. На працягу 5 гадоў, працуючы настаўнікам у школах пад Ваўкавыскам, ён завочна скончыў у Львове грэка-каталіцкую духоўную семіна-



• Горадня, 25.12.2004, Раство Хрыстова. Удзельнікі батлейкі.

© Генадзь Крыжэўскі

# Гарадзенскія Калядны

Ніштo гэтак ня аб'ядноўвае людзей, як агульная мэта. Асабліва, тая мэта, якая гуртуе людзей да творчай працы. У сумесных намаганьнях мы адкрываем як бы наноў, тых, хто даўно ўжо быў нам вядомы. Для царкоўнай грамады любая праца можа зьяўляцца той рошчынай, якая цэментуе сапраўднае цела Хрыстовае.

Гарадзенская парафія Маці Божае Фацімскай вось ужо другі год на Сьвята Нараджэньня Хрыстова ладзіць батлейку. Сёлетні сьпектакль вырашана было правесьці бяз лялек — толькі з жывымі ўдзельнікамі. Да грэка-каталікоў далучыліся дзеці з рыма-каталіцкай беларускай парафіі мясцовай катэдры. Над пастаноўкай працавалі дзеці ды іх бацькі. Сьпектакль у чатырох актах, які цягнуўся амаль гадзіну быў вельмі ўдалы. З гэтага можна зрабіць выснову: нашая Грэка-Каталіцкая Царква расьце колькасна ды якасна.

* * *

*Штогод бляску поўны дзіцячыя вочы,*
*Сьпяваем мы песьні пахвалы Хрысту.*
*Дзень — добры, сяброве, а прыйдзе час ночы —*
*сусьвету сузор'я,*
*як стане надвор'е,*
*Зьбяруцца пад'есьці Калядаў куцьцю.*

*Для нашага роду, а нават народу*
*Праз цемру няволі мы йшлі па імгле.*
*Але Бог аздобіў, даў Ласку, пагоду,*
*Каб нам не згубіці ніколі яе.*

*Сьвятая навіна, бо наша правіна*
*Паклала пачатак патрэбы яе.*
*Батлейкай паўстала, каб дзецям запала*
*У сэрцы глыбей ды народу сьвятлей.*

*Усьцешыла люд зьзяньне зоркі з Усходу —*
*Ніхто не чакаў яе хуткі прыход.*
*Любоўю людзкою ды Боскай рукою*
*Ціхутка пайшла вера ў просты народ...*

**Вітаўт ПАРФЕНЕНКА**, *г.Горадня*

# ЯКІ PR ПАТРЭБНЫ ЦАРКВЕ?

***У Еўрапейскім Цэнтры Камунікацыі і Культуры, які знаходзіцца ў варшаўскім прадмесьці Фаляніца, з 7 па 18 лістапада 2004 году быў арганізаваны семінар з незвычайнаю назваю «Public relations у царкоўных арганізацыях».***

Удзельнікамі семінару сталі 12 прадстаўнікоў царкоўных арганізацыяў з краінаў былога СССР: Беларусі, Украіны, Расеі і Арменіі. Разнастайны быў таксама і канфесійны склад удзельнікаў: праваслаўныя, рыма-каталікі, грэка-каталікі, баптысты, а таксама прадстаўніца Армянскай Апостальскай Царквы. Гэта сьведчыць пра важнасьць патрэбы будаваньня належных стасункаў паміж Царквою і грамадзтвам у постсавецкіх краінах.

Ва ўсе часы Царква аказвала вялікі ўплыў на грамадзкае жыцьцё, скіроўваючы яго на шлях хрысьціянскіх запаведзяў. На жаль, сёньня ў сьвецкай прэсе постсавецкіх краінаў мала можна знайсьці матэрыялаў, прысьвечаных жыцьцю Царквы. Прычыны гэтага можна сьпісваць на дзесяцігоддзі перасьледу Царквы, на адносіны прэсы, якая шукае толькі сенсацыяў, але часта вінаватыя ў гэтым самі прадстаўнікі Царквы, якія ня ўмеюць належна і прафесійна паказаць яе грамадзтву. Дзеля вырашэньня гэтай задачы і быў арганізаваны семінар.

Нягледзячы на «царкоўнасьць» семінару, большасьць выкладчыкаў былі людзі сьвецкія. Сярод іх былі вядомыя ў Польшчы журналісты, сьпецыялісты ў PR, а нават прэс-сакратар прэм'ер-міністра Польшчы. Тэматыка таксама не была вузка царкоўнаю. Яна ўключала агульныя выклады з тэорыі адносінаў з грамадзтвам, СМІ, вырашэньня канфліктаў, а таксама й сьпецыфічныя праблемы царкоўных арганізацыяў. Практычныя заняткі рабілі навучаньне больш цікавым і разнастайным. Падчас іх удзельнікі курсу дасканалілі свае навыкі прэсавых сакратароў, тэле- і радыёжурналістаў альбо ўдзельнікаў перадачы.

У праграму семінару ўваходзіла таксама наведваньне польскага тэлебачаньня і радыё, і нават прысутнасьць на прэс-канферэнцыі прэм'ер-міністра.

Канфесійная разнастайнасьць удзельнікаў зусім не перашкаджала сяброўскім адносінам. Хутчэй наадварот, спробы пачаць нейкую канфесійную гаворку здаваліся недарэчнымі і непатрэбнымі. Усе адчувалі сябе больш прыемна ў атмасферы сяброўства, а не «навяртаньня іншаверцаў».

Праграма семінару не абмяжоўвалася толькі заняткамі, было ў ёй месца і для адпачынку — наведваньня кіно, тэатру, экскурсіі па Варшаве. Запамінальнымі былі нефармальныя вечары, калі ўдзельнікі і выкладчыкі маглі пасядзець разам за шклянкай соку, паразмаўляць ці пасьпяваць пад гітару.

Ці трэба чакаць пасьля гэтага семінару, што прадстаўнікі розных Цэркваў кінуцца распрацоўваць PR-кампаніі сваіх вызнаньняў? Адна выкладчыца распавяла ўдзельнікам семінару пра незвычайныя падзеі ў Сінгапуры. Як вядома, гэты горад-дзяржава шматрэлігійны і шматканфесійны. І вось, хрысьціяне Сінгапуру аб'ядналіся ды замовілі ў нейкай фірмы распрацоўку PR-кампаніі. Але прадстаўляць грамадзтву яны хацелі не сябе. Яны хацелі зрабіць PR Богу. І так паўстала некалькі дзясяткаў розных плакатаў, на чорным фоне якіх была напісаная белымі літарамі думка, падпісаная проста — «Бог». Вынікі былі ашаламляльныя — у грамадзтве адразу павысілася станоўчае стаўленьне да хрысьціянаў. І гэтую кампанію ў Сінгапуры памятаюць да гэтай пары. Хрысьціяне гораду, незалежна ад вызнаньня, змаглі аб'яднацца, каб разам сьведчыць пра Бога ўсяму грамадзтву. Беларусь таксама зьяўляецца шматканфесійнай краінаю, і хацелася б дачакацца часу, калі праваслаўныя, католікі абодвух абрадаў, баптысты, пяцідзясятнікі ды іншыя вызнаньні аб'ядналюцца, каб разам сьведчыць пра Бога.

**Андрэй КРОТ**

---

рыю. Мітрапаліт Андрэй Шаптыцкі асабіста высьвяціў яго на сьвятара візантыйскага абраду ў катэдры сьвятога Юра 25 ліпеня 1926 году.

З 1926 году а. Баляслаў Пачопка працаваў душпастырам на Палесьсі: парахам у каталіцкай парафіі славяна-візантыйскага абраду ў Бабровічах і вікарыем у лацінскай парафіі ў Целяханах.

26 сьнежня 1940 году, зьнясілены ад хваробы сэрца, замучаны паборамі і прыдзіркамі бязбожнай улады, якая імкнулася зьняславіць сьвятара, ён ціха сканаў у шпіталі на другі дзень сьвята Раства Хрыстова. Сям'я сьвятара, ратуючыся ад рэпрэсіяў, літаральна на наступны дзень пасьля пахаваньня вымушана была таемна выехаць на Віленшчыну. Сёньня нашчадкі а. Баляслава Пачопкі, у якога было 7 дзяцей, жывуць у Польшчы (Варшава, Беласток і інш.)

Насельніцтва вёсак Бабровічы, Тупічыцы, Вяда, Красьніца, якія складалі ўніяцкую парафію, было амаль цалкам спалена падчас карнай аперацыі «Балотная ліхаманка» восеньню 1942 г. (Гэтыя падзеі апісаны ў знакамітай дакументальнай кнізе Алеся Адамовіча, Янкі Брыля і Уладзіміра Калесьніка «Я з вогненнай вёскі»). Тыя, хто ўратаваўся ў гэтай страшнай віхуры вайны, і сёньня ўзгадвае добрым словам а. Баляслава Пачопку, яго ахвярную душпастырскую працу, а таксама і ягоную верную памочніцу-жонку Марцыяну, якая лячыла людзей ад хваробаў ды прымала роды.

Здаецца, і сёньня для нас застаюцца актуальныя словы Баляслава Пачопкі як галоўнага рэдактара газеты «Biełarus» у ягоным артыкуле «Якое мае быць наша адраджэньне»: *«Каб нам адрадзіцца, трэба галоўным чынам, добра зразумець Боскую навуку Хрыста і ўвесьці гэтую навуку ў кожную праяву нашага жыцьця грамадзянскага і прыватнага, каб у кожнай нашай справе, у кожным слове і нават думках павадыром было Боскае прыказаньне: «Любі Бога больш за ўсё, а бліжняга — як самога сябе..., а ўсякае іншае адраджэньне,— збудаванае на якім іншым фундаменце, не на праве Божым абапёртае — гэта будзе будыніна, збудаваная на пяску, які вецер разьнясе і вада размые...»*

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

*Фота Алеся ТРАФІМЕНКІ*





*«Пакланяемся Табе з пабожнасьцю...»*

*Ян Павел II. У Нараджэньне Гасподняе 2004 г.*

# Перанясеньне рэліквіяў айцоў Царквы

***27 лістапада 2004 году ў базыліцы сьвятога апостала Пятра адбылася цырымонія перадачы Праваслаўнай Царкве рэліквіяў сьвятых Яна Залатавуснага і Рыгора Багаслова.***

Экуменічнае набажэнства распачалося працэсіяй з дзьвюма алебастравымі урнамі, у якія былі ўкладзеныя крыштальныя рэліквіяры з часткай сьвятых мошчаў. Пасьля чытаньняў са Сьвятога Пісаньня і твораў абодвух айцоў Папа пацалаваў рэліквіі і перадаў іх Яго Сьвятасьці Барталамею I, Усяленскаму Патрыярху.

Сьвяты Рыгор, патрыярх Канстанцінопальскі, якога ўсходнія хрысьціяне называюць «Багасловам», а заходнія – Рыгор з Назіянзу, памёр каля 390 году і быў пахаваны на сваёй радзіме, каля гораду Назіянзу ў Кападокіі (Турцыя), дзе праводзіў у сузіраньні апошнія гады свайго жыцьця. Ягоныя рэліквіі з часам былі перанесеныя ў Канстанцінопаль. Згодна з паданьнем, нейкія візантыйскія манахіні з манастыра сьвятой Анастасіі ў Канстанцінопалі, уцякаючы ад перасьледу ў часы іканаборства (717–775 гг.), знайшлі прытулак у Рыме і прывезьлі з сабой рэліквіі сьвятога Рыгора Багаслова. Сьвятыя мошчы спачывалі ў рымскім кляштары Сьвятой Марыі на Кампа Марцыё да 1580 году, калі па жаданьні папы Рыгора XIII адбылося ўрачыстае перанясеньне рэліквіяў у новапабудаваную базыліку сьвятога Пятра.

Сьвяты Ян Залатавусны (на Захадзе больш вядомы як Ян Хрызастом), патрыярх Канстанцінопальскі і айцец Царквы, памёр у выгнаньні 14 верасьня 407 году і быў пахаваны ў Команах Понцкіх (сёньня — тэрыторыя Турцыі). Першае перанясеньне рэліквіяў сьвятога ў сталіцу імперыі адбылося ў 438 годзе. Пазьней, верагодна, у часы крыжацкага валадарства Канстанцінопаля (1204 — 1258 гг.), рэліквіі былі вывезеныя ў Рым, у старажытную Ватыканскую базыліку.



Па просьбе Патрыярха Барталамея I Папа Ян Павел II вырашыў вярнуць частку рэліквіяў абодвух сьвятых у Канстанцінопаль. Адкрыцьцё саркафагаў з бочных алтароў базылікі сьвятога Пятра адбылося ў жніўні гэтага году.

У канцы экуменічнага набажэнства быў прачытаны ліст Сьвятога Айца Яна Паўла II да Барталамея I, Усяленскага Патрыярха. *«У перанясеньні такіх сьвятых рэліквіяў мы бачым шчасьлівую нагоду да ачышчэньня нашай зраненай памяці, узмацненьня на нашым шляху да прымірэньня, пацьвярджэньня таго, што вера гэтых нашых сьвятых Айцоў — гэта вера Цэркваў Усходу і Захаду»*,— гаворыцца ў лісьце.

У адказ Барталамей I выступіў з падзячнай прамовай у адрас Папы, параўноўваючы яго жэст з чынам Васіля Вялікага, які некалі вярнуў сьвятыя астанкі Дзяніса, біскупа Міланскага, памерлага ў выгнаньні, сьвятому Амброзію, яго наступніку. *«Зьдзяйсьняецца сёньня сьвяты чын, які выпраўляе анамалію і царкоўную крыўду. Гэты брацкі жэст Царквы старога Рыму пацьвярджае, што ў Царкве Хрыстовай няма невырашальных праблемаў, калі любоў, справядлівасьць і мір сустракаюцца ў сьвятым служэньні прымірэньня і паяднаньня»*,— адзначыў Патрыярх.

Перадача рэліквіяў вялікіх сьвятых хрысьціянскага Усходу Царкве-сястры, у якой яны былі сьветачамі і пастырамі духоўнага статку, зьяўляецца знакам жаданьня ісьці разам у кірунку дасягненьня будучай поўнай і бачнай еднасьці, каб сьвет паверыў у Хрыста, нашага адзінага Збаўцу.

**Сяргей СТАСЕВІЧ** *(г.Рым)*

# Тыдзень малітваў за еднасьць хрысьціянаў

***18 - 25 СТУДЗЕНЯ 2005 ГОДУ***

*«Х Р Ы С Т О С — адзіны падмурак Царквы»*
*(1 Кар 3. 1-23)*

ТЭМЫ І БІБЛІЙНЫЯ ЧЫТАНЬНІ:

*1-ы дзень, 18.01.2005*
ПАКЛІКАНЫЯ ДА ДУХОВАЙ СТАЛАСЬЦІ *(1 Кар 3. 1-4)*
Кал 1, 25-28; Ян 15, 1-8

*2-і дзень, 19.01.2005*
БОГ ДАЕ ЎЗРАСТАНЬНЕ *(1 Кар 3. 5-9)*
Рым 8, 14-25; Лк 8, 4-15

*3-і дзень, 20.01.2005*
ХРЫСТОС ЁСЬЦЬ ПАДМУРАК *(1 Кар 3. 10-11)*
Эф 2, 19-22; Мц 7, 24-27

4-ы дзень, 21.01.2005
БУДАВАЦЬ НА ГЭТЫМ ПАДМУРКУ *(1 Кар 3. 12-13^a)*
1 Кар 12, 4-11; Мц 20, 1-16

5-ы дзень, 22.01.2005
БОГ АЦЭНІЦЬ НАШЫЯ ВЫСІЛКІ БУДАВАНЬНЯ *(1 Кар 3. 13^b-15)*
Флп 2, 1-15; Мц 25, 14-30

6-ы дзень, 23.01.2005
ВЫ — БОЖЫ ХРАМ *(1 Кар 3. 16-17)*
1 Пт 2, 9-10; Мц 16, 24-27

7-ы дзень, 24.01.2005
ЖЫЦЬЦЁ Ў ХРЫСЬЦЕ — НЕРАЗУМНАСЬЦЬ І МУДРАСЬЦЬ *(1 Кар 3. 19-20)*
1 Кар 1, 17-30; Мц 17-25

8-ы дзень, 25.01.2005
ВЫ — ХРЫСТОВЫЯ *(1 Кар 3. 21-23)*
Адк 4, 1-11; Мк 9, 33-35

# Малітва перад біблійнымі чытаньнямі

***Запалі ў сэрцах нашых, чалавекалюбны Ўладару, нязгаслае сьвятло Твайго богапазнаньня, і адчыні вочы нашага розуму, каб нам зразумець Твае евангельскае прапаведаньне. Укладзі ў сэрцы нашы страх Тваіх блаславёных прыказаньняў, каб мы, перамогшы ўсе цялесныя пажаданьні, маглі жыць духоўным жыцьцём, думаючы і робячы ўсё, што прыемна Табе. Бо Ты — сьветласьць душ і целаў нашых, Хрысьце Божа, і Табе славу аддаем разам з Тваім адвечным Айцом і з усесьвятым, добрым і жыватворчым Тваім Духам, цяпер і заўсёды, і на вякі вякоў. Амін.***

*(З Боскай Літургіі)*

Царква
*грэка-каталіцкая газета*
*№ 4 (43), 2004*

**Адрас рэдакцыі:**
вул.Дворнікава, 63
224014 г.Берасьце (Брэст)
Беларусь
Тэл./факс: (0162) 24-74-82
**e-mail: bgkc_carkva@tut.by**

**Выдавец:** Грэка-каталіцкая парафія сьвятых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя ў г.Берасьці
**Пасьведчаньне аб рэгістрацыі:** № 1055 ад 27.11.1997 г.
**Галоўны рэдактар:** а. Ігар Кандрацьеў
**Царкоўны асістэнт:** дыякан Андрэй Сідаровіч (MIC)
**Адказны рэдактар:** Андрэй Крот, STM
**Выпускны рэдактар:** Ігар Бараноўскі
**Падпісана ў друк:** 29 сьнежня 2004 году, а 23-30
**Паліграфічныя работы:** ПП В.Ю.А. (пасьв. № 02330/0148724),ад 30 сакавік 2004 г.
вул.Мініна, 23-213, 220014 г.Менск. **Замова №** 3
**Аб'ём** — 2,5 ул.-выд.аркушы. **Наклад** 1800 асобнікаў.

***Наш разьліковы рахунак № 3015200210017 у Берасьцейскім філіяле № 2 ЗАТ "Абсалютбанк", МФО 150501242***

*Газета выдаецца і распаўсюджваецца за ахвяраваньні. Шчыра дзякуем сп. Эўгеніюшу Ладнаму з Варшавы і сп. Генадзю Бядзе з Парычаў за ахвяраваньні на газету "Царква". Молімся за ўсіх нашых ахвярадаўцаў!*

# РАЗАМ

газета грэка-каталіцкіх семінарыстаў № 4(16)-2004


# ШЧАСЬЛІВЫЯ ЧЫСТЫЯ СЭРЦАМ

***«Шчасьлівыя чыстыя сэрцам, бо яны Бога ўбачаць» (Мц 5:8)***

Усе мы добра ведаем гэтыя словы, бо яны сьпяваюцца падчас кожнай сьвяточнай Боскай Літургіі, бо менавіта іх скіраваў наш Госпад Ісус Хрыстос да сваіх вучняў падчас нагорнага казаньня, бо менавіта мы і ёсьць Ягонымі вучнямі, да якіх таксама скіраваны гэтыя словы. Толькі вось можа паўстаць пытаньне: а што гэта значыць — чыстыя сэрцам? Што такое Чысьціня — якая разам з Паслухмянасьцю і Беднасьцю складаюць тры Евангельскія рады? Ці трэба разумець гэта ў сэнсе літаральным — адмова ад шлюбу і шлюбных стасункаў — і тады прызнаць, што да яе пакліканыя толькі некаторыя «выбраныя», бо ж сам Госпад сказаў, што такі стан прымуць «толькі тыя, што пакліканы», альбо можа разумець у сэнсе агульным — што Чысьціня не залежыць ад твайго стану, ці ты маеш мужа ці жонку, ці ты жывеш у стане бязшлюбным (цэлібату) — і тады прызнаць, што да яе, да жыцьця ў чысьціні, паклікаHы кожны чалавек, які хоча ісьці за Хрыстом і быць падобным да Яго?



Шмат добрых словаў у Бібліі ёсьць пра шлюб, таксама шмат пра цэлібат. У сьвятых Айцоў — тых вялікіх пасьлядоўнікаў Хрыста першых стагоддзяў — ёсьць шмат станоўчых рацыяў, што прамаўляюць за шлюб, і яшчэ больш — якія прамаўляюць за цэлібат. У Катэхізісе нашай Царквы вельмі шмат напісана і пра адзін, і пра другі стан, ды нават падкрэсьлена, што мы не павінны ўсхваляць «адныя з іх і выключаючь іншыя», бо ў гэтым «багацьце царкоўнае дысцыпліны».

Вядома, што любую думку (нават гарэтычную) можна добра абгрунтаваць цытатамі з Бібліі ды іншых крыніцаў, калі не глядзець у кантэксьце, не глядзець на канкрэтныя словы з перспектывы суцэльнасьці Сьвятога Пісаньня. У гэтым нумары мы не спрабуем падымаць пытаньняў пакліканьня ды яго рэалізацыі, але, не прэтэндуючы на непамыльнасьць (бо гэта прэрагатыва цэлай Царквы), рызыкнулі глянуць на евангельскі заклік да чысьціні ў кантэксьце ўсяго Пісаньня і навукі Царквы. З некаторымі думкамі з таго, што мы знайшлі, знаёмім Вас, нашыя паважаныя чытачы, каб ў малітве, пакоры ды чысьціні сэрца шукаць праўду РАЗАМ.

***ЧЫСЬЦІНЯ:***

***СЛАВ. — «целомудріе», «цэласнасьць» + «мудрасьць»***

***ЛАЦ. — «castitas», што значыць чысьціня, нявіннасьць, сарамлівасьць***

# Любоў

Чысьціня цела
Чысьціня рук таго хто ўладу трымае
Чысьціня ідэі
Чысьціня сьнегу што ад холаду плача
Вады што бяжыць без адзеньня
Чысьціня найпрасьцейшага
І ўсё гэта — надарэмна
Без любові.

**кс. Ян ТВАРДОЎСКІ**

# Бачым...

У твары жанчыны прыгожай
Дзіцё бачыць рысы маці,
Юнак закаханы — Каханай,
Паэта — адбітак Музы,
Сьвяты — бачыць вобраз Божы.
Што іх яднае?
Погляд.
Заўсёды ён чымсьці поўны:
Любоўю да маці — ў дзіцяці,
Каханьнем — у закаханых,
Узьнёслай любоўю — ў паэты,
Ды Боскай Любоўю — ў сьвятога...

Дык можа цяпер разумееш:
Што ёсьць Чысьціня,
Мой браце?

**Мацей БАСЁВІЧ**

Блаславёны Хасэмарыя ЭСКРЫВА

## Сьвятая чысьціня

118. Госпад абдорвае ласкай сьвятой чысьціні тых, хто просіць яе з пакораю.

119. Як цудоўна сьвятая чысьціня! Але аддзялі яе ад міласэрнасьці — і яна ня будзе ні сьвятой, ні цудоўнай.

Высьпявае зерне міласэрнасьці. Жывая вада сьвятой чысьціні сілкуе яго, а пасьля яно прыносіць цудоўныя плады.

Дарэмна чысьціня без міласэрнасьці; яе мёртвыя воды ператвараюць душу ў гнілое балота, над якім стаіць затхлы смурод гардыні.

121. Патрэбны Крыжовы паход стойкіх і чыстых душ, якія адважацца супрацьстаяць усім, хто імкнецца зрабіць з чалавека быдла.

Гэтую працу вам давядзецца ўзяць на сябе.

122. Многія жывуць, як анёлы, у гэтым, зямным сьвеце. — Чаму ня ты?

123. Калі ты адважышся на чыстае жыцьцё, цнатлівасьць будзе для цябе ня цяжарам, але каронаю славы.

129. Без чысьціні стойкасьць у служэньні проста недасягальна.

139. У хвіліну спакусы ўзгадай пра Любоў Божую, якая чакае цябе на Нябёсах. Узгадоўвай у сабе цноту надзеі, якая — не ад маладушнасьці.

142. *Domine! Si vis, potes me mundare* — «Госпадзе, калі хочаш, можаш мяне ачысьціць».

Вось малітва пракажонага — найлепшая пры ўсякай спакусе. Калі з табою адбываецца тое, пра што ведаем толькі мы з табою ды Гасподзь,— маліся так. — І хутка пачуеш адказ Настаўніка: *volo, mundare!* — «хачу, ачысьціся!»

*Паводле: Блаженный Хосемария Эскрива. «Путь». – Москва, «Рудомино», 1995.*

# Чысьціня – як Евангельская рада

***(З Катэхізму Каталіцкай Царквы)***

## *ШТО ТАКОЕ ЕВАНГЕЛЬСКІЯ РАДЫ?*

Акрамя прыказаньняў (Евангельскага Закону), Новы Запавет уключае таксама і Евангельскія рады. Традыцыйна Божыя Запаветы адрозьніваюць ад радаў Евангельля па адносінах да любові альбо да дасканаласьці хрысьціянскага жыцьця ([а трэба зазначыць, што] заклік да паўнаты хрысьціянскага жыцьця і да дасканаласьці любові скіраваны да ўсіх, хто верыць у Хрыста, які б ні быў іх стан ці вобраз жыцьця. Усе пакліканы да сьвятасьці: «Будзьце дасканалымі, як дасканалы Айцец ваш Нябесны (Мц 4:48)» [§ 2013]). Запаветы прызначаны для таго, каб адхіліць усё тое, што нязгодна з любоўю; а мэта радаў — адхіленьне нават таго, што можа і не супярэчыць любові, але перашкаджае яе разьвіцьцю [§ 1973].

Евангельскія рады робяць яўнай жывую паўнату любові, якая нястомна жадае даваць усё больш і больш. Яны сьведчаць пра моц і заклікаюць нас да духоўнага прыгатаваньня. Дасканаласьць Новага Запавету складаецца, у асноўным, з наказаў любові да Бога і да бліжняга. Рады паказваюць нам больш простыя (роўныя) шляхі, адпаведныя сродкі, і сьледаваць ім патрэбна ў залежнасьці ад пакліканьня кожнага чалавека [§ 1974].

## *АЛЕ ХТО ПАВІНЕН СЬЛЕДАВАЦЬ ІМ?*

«У трох сінаптычных Евагнельлях (Мц, Лк, Мк) заклік Ісуса да багатага юнака сьледаваць за Ім суправаджаецца заклікам да беднасьці і чысьціні. Евангельскія рады нельга аддзяляць ад прыказаньняў (запаветаў) [§ 2053]. Яны прапанаваныя кожнаму вучню Хрыста [§ 915].

## *ШТО ЗНАЧЫЦЬ ЧЫСЬЦІНЯ?*

Чысьціня [слав. — «целомудріе»] — гэта цнота маральная. Таксама — дар Божы, ласка, плод дзеяньня Духа. Сьвяты Дух дае кожнаму, хто ажыўлены вадою Хросту, моц насьлядоўваць чысьціню Хрыста [§ 2345].

Чысьціня азначае поўную цэласнасьць сэксуальнасьці ў асобе і, такім чынам, унутраную еднасьць чалавека ў яго цялесным і духоўным існаваньні. [...] Цнота чысьціні яднае ў сабе такім чынам цэласнасьць асобы і цэласнасьць дару [§ 2337].

Кожны ахрышчаны чалавек пакліканы да чысьціні. Хрысьціянін «апрануўся ў Хрыста» (Гал 3:27), Які ёсьць Прыклад чысьціні. Усе верныя Хрысту пакліканыя весьці жыцьцё ў чысьціні згодна з рознымі станамі іх жыцьця. У момант Хросту хрысьціянін забавязваецца падпарадкаваць чысьціні ўсё сваё эмацыйнае жыцьцё [§ 2348].

Чысьціня людзей павінна адрозьнівацца ў залежнасьці ад розных станаў іх жыцьця: адныя — абяцаючы Богу дзявоцтва і цэлібат (стан бязшлюбны), такім чынам маючы магчымасьць лягчэй прысьвяціцца непадзельным сэрцам Богу; іншыя ж — праводзячы жыцьцё ў межах, акрэсьленых правам маральным для ўсіх, у залежнасьці ад таго, ці ўзялі шлюб, ці жывуць у адзіноце. Тыя, што жывуць у шлюбе, пакліканыя да жыцьця ў сужэнскай чысьціні, іншыя ж — да чысьціні ўстрыманьня [§ 2349].

Існуюць тры формы цноты чысьціні: чысьціня сужонкаў, чысьціня аўдавелых і чысьціня дзявоцтва. Мы не ўсхваляем адных з іх, выключаючы іншыя. У гэтым багацьце царкоўнай дысцыпліны [§ 2349д].



сем. Алесь ШЫБЕКА

# Пра чысьціню

**_Ня раз падчас чытаньня Сьвятога Пісьма мы можам сустрэць заклік Ісуса альбо апосталаў да чысьціні. Пры гэтым патрабаваньне чысьціні ёсьць адной з істотных і радыкальных патрэбаў дла рэалізацыі хрысьціянскага пакліканьня. Для гэтага вельмі важна зразумець, у чым менавіта палягае гэты заклік і што ён ад нас вымагае._**

Лексікон каталіцкай духоўнасьці падае нам разуменьне чысьціні ў двух галоўных асьпектах. Першы з іх — гэта асьпект духоўны, які акрэсьлівае чысьціню як цноту, якая нараджаецца з любові і, адначасова, робіць хрысьціяніна здольным да праўдзівай любові. Чыстае — гэта тое, што ня бруднае, тое што пазбаўлена плямаў. Таму ў гэтым асьпекце чыстым можна назваць чалавека, які жыве без вераломнасьці і хітрасьці, які перамагае свой эгаізм і здольны да ахвярнага жыцьця, адкрыты на патрэбы іншага чалавека. Другі асьпект — матэрыяльны (цялесны) — акрэсьлівае чысьціню як узвышэньне над уласным сэксуальным прагненьнем і карыстаньне з яго згодна з розумам і верай, дастасоўваючы яго да ўласнага пакліканьня і жыцьцёвага стану.

Напэўна, не памылюся, калі скажу, што хоць усе мы і маем адно агульнае хрысьціянскае пакліканьне — пакліканьне да сьвятасьці, да збаўленьня, — але да рэалізацыі гэтай мэты мы крочым рознымі шляхамі (сваімі асабістымі пакліканьнямі). Таму трошкі ўважней прыгледзімся да двух такіх характарыстычных жыцьцёвых станаў — стану дзявочага (цэлібату) і сямейнага, — і ў чым палягаюць некаторыя адметнасьці захаваньня чысьціні ў іх.

***Цэлібат.*** Уласьцівы цэлібат, як казалі сьвятыя Айцы, ёсьць «белым мучаніцтвам», адкрытай ранай, каб даваць жыцьцё. Хрысьціянскі цэлібат можна зразумець толькі ў святле Добрай Весткі аб Хрысьце; прыняты сьвядома і дабравольна для Валадарства Нябеснага, ён зьяўляецца вялікай ласкай і, адначасова, адказнасьцю. Дзявоцтва дзеля Хрыста ёсьць пэўнай прароцкай місіяй, яркай зоркай добраў нябесных, якая абвяшчае часы збаўленьня, часы, калі ўжо «ня будуць жаніцца, ані замуж выходзіць...» *(Мк 12, 25)*, ёсьць сьведчаньне ўсім сваім жыцьцём пра моц надпрыроднай ласкі Божай. З гэтай вялікай місіі цэлібату паўстае і вялікая адказнасьць за чысьціню, якая ёсьць адначасова і блаславенствам, і істотнай яго умовай. Асаблівасьцю захаваньня чысьціні ў цэлібаце (акрамя чысьціні духоўнай) ёсьць вымаганьне чысьціні цялеснай у яе радыкальнай форме — поўнай адмове ад інтымных стасункаў і закладаньня сям'і. Разам з гэтым, галоўная ідэя чысьціні ў цэлібаце — гэта не ідэал аскетычны, але шляхетнае, поўнае любові жаданьне ісьці за Хрыстом ва ўсім, нават у яго дзявоцтве...



***Стан сямейны.*** «... Жанчыны, падпарадкоўвайцеся мужам сваім, як Госпаду... Мужы, любіце жонак, як і Хрыстос любіць Царкву, і Самога Сябе выдаў за яе... Гэта вялікая таямніца; а я кажу аб Хрысьце і Царкве» *(Эф 5, 22, 25, 32)*.

Зьвернем увагу, якую вялікую вартасьць надае апостал Павел сям'і. Годнасьць шлюбу ён падносіць да годнасьці любові паміж Хрыстом і Царквой. Любоў паміж мужам і жонкай ён акрэсьлівае як бачны для нас прыклад нябачнай любові Хрыста і Царквы. Іншымі словамі, гледзячы на шлюб, мы можам убачыць любоў Хрыста да сваёй Нарачонай — Царквы. Беручы пад увагу такую вялікую годнасьць, якую надаў Хрыстос шлюбу, а таксама вартасьць новага жыцьця, якое паўстае і выхоўваецца у сям'і, вялікае значэньне набывае патрэба захаваньня чысьціні й ладу ў сямейнай сьвятыні, як гарантыі правільнага яе функцыянаваньня і аддаваньня належнай пашаны Богу.

Сям'я, таксама як і цэлібат, патрабуе захаваньня чысьціні як духоўнай, так і цялеснай. Але адначасова чысьціня ў стане сямейным мае і сваю адметнасьць, асабліва гэта датычыцца блаславёных у шлюбе інтымных адносінаў паміж мужам і жонкай. Так энцыкліка Паўла VI *«Persona humanae»* нагадвае: «Годнасьць шлюбных актаў не залежыць толькі ад шчырага намеру і матывацыяў, але павінна таксама быць акрэсьлена ў сьвятле аб'ектыўных крытэрыяў, дастасаваных да прыроды чалавечай». Можна сказаць, што чысьціня адносінаў паміж мужам і жонкай паходзіць з шанаваньня волі Божай, якая праявілася у прыродзе і фізіялогіі чалавека. Таму і інтымныя сямейныя адносіны, згодныя з прыродай і фізіялогіяй, будуць чыстыя. Добрым прыкладам гэтага зьяўляецца натуральнае планаваньне сям'і, якое знаходзіцца ў згодзе з прыроднай цыклічнасьцю функцыянаваньня арганізму жанчыны. Больш таго, з шанаваньня гэтага плану Божага ў сям'і, бяруць свае вытокі і ўстрыманасьць, і пашана, і бацькоўская любоў. З іншага боку, карыстаньне з розных сродкаў штучнай контрацэпцыі ёсьць нячыстасьцю, бо ў сваёй сутнасьці супраціўляецца ідэі сям'і і стварае перашкоды прыродным працэсам, якія мудра

(Працяг на с. 4)

# Сьвятыя Айцы гаварылі:

• *...Добрая рэч — шлюб, калі будуецца ў сьвятасьці і калі Бог мае ў ім першае месца, перад справамі цела...*

• *...Дзьве дарогі адкрытыя перад усімі: шлюб і самотнасьць (цэлібат). Апошняя — больш узьнёслая і блізкая Богу, але ж і цяжэйшая ды мае больш небясьпекаў. Першая ж прыемнейшая, але затое бясьпечная, [пад умоваю, калі] сапраўды будзе шлюбам і супольнасьцю жыцьця...*

• *... Ані шлюб ня ёсьць кепскі з сваёй прыроды, ані самотнасьць не заслугоўвае на пахвалу без перасьцярогі. Адказнасьць і за шлюб, і за дзявоцтва бярэ дух чалавека; адно і другое ёсьць нібы матэрыялам, які Ісус — Слова Божае, як мастак, кшталтуе і ўкладае ў форме цноты...*

• *...Нават калі дзявоцтва годна большага ўшанаваньня, то гэта ня значыць, што шлюб чыніць чалавеку нейкую шкоду...*

• *...Не вагайся пахваліць шлюб, хаця ж на першым месцы ставім дзявоцтва...*

**Сьв. Рыгор БАГАСЛОЎ (IV ст.)**

# Значнасьць зароку чысьціні

***Чысьціня — выдатны дар ласкі.*** II Ватыканскі сабор у дэкрэце пра манаскія асобы так гаворыць пра зарок чысьціні: «Чысьціня "дзеля валадарства нябеснага" (Мц 19: 12), якую вызнаюць манахі, трэба цаніць, як выдатны дар ласкі. Бо яна ў асаблівы спосаб вызваляе сэрца чалавека, каб больш запальвалася любоўю да Бога і да ўсіх людзей, і таму зьяўляецца знакам нябесных дабротаў» (§ 12).

Што азначае «дар ласкі»? Божы дар, які можна пазнаць, зразумець і прыняць толькі ў сьвятле веры. Бо толькі вера паказвае нам значэньне, красу ды ўсю карысьць чысьціні. Гэта не дадзена ўсім, а толькі некаторым. Хрыстос кажа: «Ня ўсе разумеюць слова гэтае, а толькі тыя, каму дадзена... Хто можа ўцяміць, няхай уцяміць» (Мц 19: 11-12).



***Чысьціня — найбольш набліжае нас да Хрысту.*** Так аднолькава згодна навучаюць сьв. Айцы Ўсходняй і Заходняй Царквы. Сьв. Васіль кажа: «Трэба й гэта помніць, што хто абраў манаскае жыцьцё, той перайшоў межы чалавечай прыроды і прыняў бесьцялесны спосаб жыцьця, абраў жыцьцё анёлаў, бо гэта прыкмета анёльскай прыроды — быць вольным ад усякага сужонскага саюзу і трываць у безупынным сузіраньні Божага аблічча». А сьв. Тодар Студыт гаворыць: «Усе цноты вялікія, і набыцьцё іх вельмі пажаданае, аднак ніводная з іх не раўняецца дзявоцтву..., якое стала Хрыстовай Маці. Дзявоцтва перамяняе людзей у анёлаў». Тым, хто чыстыя сэрцам, сам Хрыстос запэўнівае неба: «Шчасьлівыя чыстыя сэрцам, бо яны ўбачаць Бога» (Мц 5: 8).

*Паводле: о. Юліян Катрій, ЧСВВ. «Вгору піднесім серця». Рым 1993.*

# Пра чысьціню

(Заканчэньне са с. 3)

падараваныя чалавеку Богам, а таксама прыводзіць да непашаны жанчыны, бо ідзе супраць яе натуры. Зразумела, што дэмаралізуюць сям'ю і іншыя маральныя адхіленьні, такія як мастурбацыя, перарваны стасунак, аральны і анальны сэкс, якія ўжо ў сваёй сутнасьці ёсьць спрэчнымі з прызначэньнем і функцыянаваньнем розных органаў чалавечага цела. Гэта ўсё спрычыняецца да так званага «ўпадку звычаяў», зьяўленьню распусты і, як вынік, сямейных здрадаў, а таксама выключае адну з галоўных мэтаў сям'і — супольнасьці любові, пашаны і паўстаньня новага жыцьця.

І застаецца апошняе пытаньне: як здабываць чысьціню і як яе захоўваць? Як слушна заўважыў а. Вінфрыд Вэрмтэр: «Чысты ёсьць той, што часта ачышчаецца». Чысьціня не зьяўляецца чымсьці, што мы здабылі назаўсёды, што не патрабуе ніякіх высілкаў, чымсьці, з чым няма ніякіх праблемаў і цяжкасьцяў. Як спартовец, які дасягае добрых вынікаў, дзякуючы рэгулярнаму трэнінгу, таксама й чысьціня патрабуе сталай апекі і сілкаваньня. Такім падсілкаваньнем зьяўляюцца малітва, пост, міласьціна, добрыя ўчынкі міласэрнасьці. Важна ўсьвядоміць, што спакусы супраць чысьціні вельмі вераломныя, і таму лепшым спосабам барацьбы з імі ёсьць проста ўцёкі, а некаторыя рэчы трэба проста выключыць са свайго жыцьця (напрыклад, агляданьне парнаграфіі ці надужываньне алкаголю). Вельмі істотнай дапамогай у захаваньні чысьціні, акрамя нашай узаемнай любові і падтрымкі, ёсьць рэгулярная Споведзь і Еўхарыстыя, якія нанова яднаюць нас і ачышчаюць каштоўнай Крывёю самога Госпада нашага Ісуса Хрыста.

**РАЗАМ № 4 (16) - 2004**

**дадатак да газеты «Царква», № 4 (43)**

**Над нумарам працавалі:**
Алесь АЎДЗЯЮК, Андрэй БУЙНІЧ, Алесь ШЫБЕКА



**ПІШЫЦЕ НАМ:**
**razam_bgkc@tut.by**

al.Andrej Bujnicz
W.S.D., ul.Kościelna 10,
17-312, Drohiczyn, POLSKA